ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

17 снежня 1993г № 50 (3720) Кошт 30 руб.





**Міхась РАМАНЮК, «гаспадар Грааля»...**

*Культуралагічны нарыс-эсэ Юрася Залоскі — на стар. 5, 14—15.*

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА

Кола дзён

***Знакамітае выслоўе: «Ад вялікага да смешнага — адзін крок» пасля выбараў у Расіі можа гучаць і крыху інакш: «Ад смешнага да вялікага — адзін крок»... Да 12 снежня мала хто ўспрымаў усур'ёз У.Жырыноўскага, як палітыка, а сёння сустрэчы з ім, як з лідэрам самай уплывовай расійскай партыі, плануюць многія кіраўнікі заходніх дзяржаў. Жырыноўскі не стаў іншым, але цяпер лічыцца з ім, з ягоным характарам і тэмпераментам, давядзецца ўсім, у тым ліку і прэзідэнту Ельцыну. Уладзімір Вольфавіч у першым сваім інтэрв'ю заявіў, што гатовы да супрацоўніцтва з Ельцыным і нават з урадам, хоць яму вельмі не падабаюцца Я.Гайдар, А.Козыраў, А.Чубайс... Расія зноў здзівіла свет і ўвайшла ў сваю новую, яшчэ больш дэмакратычную, эру. У самым дэмакратычным парламенце будзе шмат знаёмых нам з папярэдніх тэлетрансляцый твараў — С.Бабурын, У.Ісакаў, А.Тулееў, В.Старадубцаў, В.Чыкін... А адкрые першае пасяджэнне Думы, як старэйшы з абраных дэпутатаў, хутчэй за ўсё вядомы паэт /на вершы якога пісаў песні нават І.Лучанок/, а цяпер падсудны па справе ГКЧП — Анатоль Лук'янаў... Што гэта: грымасы дэмакратыі альбо аб'ектыўны зрэз стану расійскага грамадства?***

## РАСЧАРАВАННЕ ТЫДНЯ

Галоўны змагар з карупцыяй і мафіяй у нашай дзяржаве пан Лукашэнка выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета з інфармацыяй, падрыхтаванай часовай парламенцкай камісіяй па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры органах улады і кіравання /заўважце гэта/, якую ён узначальвае. Доўгачаканы і шматабяцальны даклад здзівіў сваёй неканкрэтнасцю, павярхоўнасцю і, галоўнае, цытаваннем агульнавядомых /з газет/ фактаў. Адчувалася, што інфармацыя была тонка падрэдагавана і названы былі тыя, каго можна было назваць... Аднак, сказаўшы А, давялося назаўтра гаварыць і Б. і В, а потым і К... Усю двухсэнсоўнасць свайго становішча Лукашэнка зразумеў толькі пад канец абмеркавання, калі крытыка на яго пасыпалася з усіх бакоў. «Дык што, нехта краў, а я віназаты?» — сказаў ён. А як вы думалі, Аляксандр Рыгоравіч? Няўжо вы спадзяваліся, што наменклатура вам гэта даруе? І ніякія дробязныя закіды ў бок дэпутатаў з апазіцыі БНФ вас не выратуюць. Бо надта смешнымі выглядаюць яны ў параўнанні са «справамі» Косцікава, Місуны, Арцымені...

## ПАРАЖЭННЕ ТЫДНЯ

Па папярэдніх дадзеных на выбарах у Расіі найбольшую колькасць галасоў сабрала ліберальна-дэмакратычная партыя У.Жырыноўскага — каля 24 працэнтаў. На другім месцы «Выбар Расіі» - 15 працэнтаў, на трэцім кампартыя — 11... Гэта не перамога партыі Жырыноўскага, гэта хутчэй паражэнне дэмакратаў. Ці змогуць яны цяпер, «все распри позабыв», аб'яднацца перад пагрозай чырвона-карычневага парламенцкага перавароту? У іх ёсць шанц захаваць дэмакратыю ў Расіі, калі яны хоць зараз, без інтэлігенцкіх насмешак, успрымуць У.Жырыноўскага, як сур'ёзнага праціўніка. Зрэшты, магчыма, сёння і занадта завышаецца значэнне перамогі партыі Жырыноўскага. Бо партыі, як такой, няма. Ёсць Жырыноўскі. Больш нікога з лідэраў ЛДПР мы /ды і большасць з тых, што за яго галасавалі/ не ведаем. Партыя ўяўляе з сябе аб'яднанне «пад крылом» Жырыноўскага самых розных рухаў — ад нацыянал-фашыстаў да сексуальных меншасцей. Стратэгічная мэта іх з'яднала, калі ж пачнецца тактычная парламенцкая барацьба, ці не распадзецца брудна-шэрая маса на асобныя колеры: блакітна-ружовыя, чырвона-карычневыя, чорна-жоўта-белыя... З другога боку, калі стане магчымым саюз паміж ЛДПР, камуністамі і аграрнікамі ў Думе, дэмакратам давядзецца не раз яшчэ прыгадаць бездапаможна прайграныя выбары... Тут жа варта адзначыць і КАНФУЗ ТЫДНЯ — спробу тэлекампаніі «Астанкіна» наладзіць у прамым эфіры ў ноч з 12 на 13 снежня святкаванне «перамогі дэмакратыі». Як сказаў сатырык А.Арканаў: «Запрасілі гасцей на імяніны, а імяніннік памёр...»

## АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ?

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Саўміна Беларусі была заслухана праграма надзвычайных мер па жорсткай эканоміі паліва. Сярод іншага прапаноўвалася павялічыць у 3 разы плату за цепла- і электраэнергію, арганізаваць падачу гарачай вады па графіках, скараціць маршруты гарадскога транспарту, скараціць працягласць асвятлення вуліц, скараціць аб'ём трансляцыі тэлеперадач удзень і пасля 23 гадзін і інш. Урад не захацеў падпісваць сабе прыгавор і не пайшоў на такія крутыя меры пад пагрозай блізкіх агульнадзяржаўных страйкаў. Але ці надоўга гэтая адтэрміноўка?

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадзе, першай палітычнай партыі, утворанай на Беларусі, споўнілася 90 гадоў. Адноўленая ў 1991 годзе, Грамада стала адной з буйнейшых партый у нашай краіне, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах шмат прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты нацыі. Грамада сёння рыхтуецца да выбараў, якія павінны ў рэшце рэшт адбыцца на Беларусі на шматпартыйнай аснове. На прайшоўшым нядаўна V пленуме Цэнтральнай Рады БСДГ была выказана прапанова стварыць новы перадвыбарчы сацыял-дэмакратычны блок разам з Партыяй народнай згоды.

## МАРНАТРАЎСТВА ТЫДНЯ

Яшчэ адна спроба стаць дэпутатам ВС Беларусі стала безвыніковай — выбары па Жодзінскай выбарчай акрузе N 87 не адбыліся, бо ўдзел у іх прыняло менш паловы выбаршчыкаў. Цалкам чаканы і прагназаваны вынік. Але мільёны дзяржаўных рублёў ужо не вернуцца. Яны «пайшлі ў пясок»...

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

У чыгуначных касах Беларусі прыпынены продаж білетаў на паўднёвыя кірункі — Адлер, Кіславодск, Сімферопаль... З-за адсутнасці паліва ўкраінскія чыгуначнікі адмаўляюцца весці па сваёй тэрыторыі беларускія цягнікі. Давядзецца беларусам ездзіць адпачываць на Гаіці альбо ў Грэцыю. Прасцей дабрацца ды і не нашмат даражэй. Толькі вось, каб яшчэ плацілі нам столькі, колькі ў Грэцыі... Урад, праўда, абяцае з 1 студзеня падняць мінімальны заробак. З чатырох да шасці долараў...

Кола дзён

Парламент

# І ЖЫРЫНОЎСКІ, І КАРУПЦЫЯ...

Што адразу кінулася ў вочы перад пачаткам ранішняга пасяджэння Вярхоўнага Савета 14 снежня, дык гэта цалкам заселены сектар, адведзены ў авальнай зале для членаў урада, і незвычайнае шматлюддзе на балконе, дзе звычайна атабарваецца прэса. Усё гэта не было нечаканасцю, бо яшчэ колькі дзён назад стала вядома, што ў гэты дзень павінен выступіць з дакладам старшыня часовай парламенцкай камісіі па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры органах дзяржаўнай улады і кіравання А. Лукашэнка.

Але, як звычайна, пасяджэнне пачалося з выступлення дэпутатаў у «Розным». З іх я адзначыў бы толькі паведамленне Д. Булахава /замест прадугледжаных рэгламентам трох хвілін яму была дадзена магчымасць пабыць за трыбунай цэлых дзесяць/ аб паездцы групы беларускіх нардэпаў у якасці замежных наглядальнікаў у Расійскую Федэрацыю, а калі больш канкрэтна, у сумежную з намі Смаленскую вобласць падчас правядзення там рэферэндуму па прыняцці новай Канстытуцыі і выбараў у федэральны парламент. Паводле расказу Д. Булахава, які даў станоўчую ацэнку самой арганізацыі выбараў /там было шмат павучальнага і для нас/, і на Смаленшчыне ўдалося набраць больш галасоў партыі Жырыноўскага і камуністам. Па аднамандатнай выбарчай акрузе ў парламент смаляне абралі свайго земляка, падсуднага гэкачэпіста А. Лук'янава.

Калі ўжо я зачапіў тэму апошніх выбараў у Расіі, дазволю сабе колькі слоў пра тое, што там адбылося. Вынікі выбараў сёння вядомыя ўсяму свету, і гэта аблягчае маю задачу. Скажу толькі адно: хоць і «умом Россию не понять», але такога фіналу выбараў, такога поспеху антыдэмакратычных сіл і асабліва партыі Жырыноўскага, які не хавае сваіх фашысцкіх поглядаў, не чакаў ніхто.

Для многіх, як і для мяне, сам Уладзімір Вольфавіч Жырыноўскі і яго партыя — пэўная загадка. Возьмем назву партыі — «ліберал-дэмакратычная». Нічога сабе лібералы, нічога сабе дэмакраты, што патрабуюць «адраджэння» Расійскай імперыі ў межах 1913 года! Не кажучы ўжо пра іншыя лозунгі, ад якіх патыхае непрыхаваным шавінізмам і ксенафобіяй.

Нечакана высокі працэнт галасоў набралі і камуністы партыі Зюганава.

Як жа такое магло здарыцца? Недарэчнасць, нечаканы гістарычны зігзаг? На начным «выбарчым» тэлешоу ў Крамлёўскім палацы, які закончыўся вялікім канфузам, адзін з выпрабаваных і паслядоўных расійскіх дэмакратаў, публіцыст Юрый Каракін з прыкрасцю і гневам сказаў з тэлеэкрана: «Россия, одумайся, ты одурела». Але ж у многім, што здарылася, вінаваты і яны, расійскія дэмакраты, якія ў палоне эйфарыі ад перамогі над хасбулатаўскім парламентам не змаглі ў час зарыентавацца, прааналізаваць сітуацыю, нарэшце, зразумець, што многія мільёны збяднелых людзей, страціўшых не толькі палітычныя, а і маральныя арыенціры, могуць прагаласаваць за фашыстаў з камуністамі. Мала таго, яны, дэмакраты, не знайшлі для сябе нічога лепшага, як пачаць зводзіць паміж сабой рахункі, разбегшыся па асобных партыях і блоках.

Можна было б, вядома, пра ўсё гэта гаварыць з меншым напалам, не надаючы апошнім расейскім падзеям такой увагі. Можна было б, калі б не грызла неадчэпная думка — чым усё гэта абернецца для Беларусі, якая для пана Жырыноўскага /і ён пра гэта неаднойчы гаварыў/ не больш, чым адна з заходніх губерняў «Вялікай Расіі», як, дарэчы, і краіны Прыбалтыкі, кіраўнікі якіх ужо публічна выказалі сваю сур'ёзную занепакоенасць вынікамі выбараў у Расіі. Толькі нашы дзяржаўныя мужы нібы набралі ў рот вады...

А мо ім не да Жырыноўскага з Зюганавым, які, між іншым, таксама змагаецца за аднаўленне калі не Расійскай імперыі ў дарэвалюцыйных яе межах, дык Савецкага Саюза ў поўным яго аб'ёме? Што і казаць, ураду нашаму 14 снежня было горача, як ніколі, і, як сказаў адзін з выступаючых дэпутатаў, не ў аднаго міністра ўспацелі ад хвалявання далоні, калі гучаў даклад камісіі А. Лукашэнкі — трапіць ці не трапіць ён у пералік карумпаваных асоб, прозвішчамі якіх, нібы з меха, сыпаў дакладчык.

Фактаў карупцыі, махлярства, ашуканства ў асяроддзі ўладных і кіруючых структур і ў дакладзе А. Лукашэнкі і ў садакладзе С. Антончыка, які, як я зразумеў, рабіўся ад імя апазіцыі БНФ, было прыведзена столькі, што ад аднаго іх пераліку, дальбог, станавілася млосна. Сярод усёй гэтай мешаніны з прозвішчаў і лічбаў нельга было не заўважыць адной акалічнасці, нават тэндэнцыі — найперш нагрэла рукі на эканамічных цяжкасцях былая партдзяржнаменклатура, якая з незвычайным спрытам і ўменнем пачала ствараць ценявую эканоміку, мафіёзныя кланы, — нібы займалася гэтым усё жыццё. А мо і займалася, толькі тайна, захоўваючы глыбокую канспірацыю?

У абмеркаванні дакладаў прыняло ўдзел шмат дэпутатаў. Я схільны пагадзіцца з прагучаўшай з парламенцкай трыбуны думкай, што не апошняй прычынай з'яўлення ў нас карумпаванага чыноўніцтва з'яўляецца недасканаласць заканадаўчай базы, недапрацаванасць, аморфнасць, нават двухсэнсоўнасць многіх законаў, да якіх вельмі падыходзіць народная прымаўка: «Закон, як дышла, куды павярнуў, туды і выйшла». Хіба сакрэт, што, напрыклад, большасць прадпрымальнікаў вымушана, зноў жа з-за недасканаласці законаў, прабіваць сабе дарогу, падкупліваючы чыноўнікаў, ад якіх, а не ад закона, усё залежыць. «Бяруць» яны і за многае, многае іншае. І ў горадзе, і ў вёсцы.

Як я ўжо казаў, у дакладах С. Лукашэнкі і С. Антончыка была названа вялікая колькасць асоб, якія, на думку дакладчыкаў, пагразлі ў карупцыі. Тым не менш,я ў гэтых сваіх нататках не назваў ніводнага прозвішча. І зрабіў гэта свядома. Бо той прававы нігілізм, які пануе ў рэспубліцы і які з такім імпэтам выкрывалі А. Лукашэнка і С. Антончык, пакінуў свой след і ў іх сачыненнях. У кожнай сапраўды прававой дзяржаве трымаюцца перш за ўсё непахіснага прынцыпу — прэзумпцыі невінаватасці. Ніхто не можа быць аб'яўлены злачынцам без судовага прысуду. І, на мой погляд, можна было зразумець крыўду і абурэнне старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь С. Багданкевіча, які ў дакладзе А. Лукашэнкі быў названы ці не галоўным карумпцыянерам у банкаўскай сістэме рэспублікі. Некалькі разоў ён выходзіў да мікрафона з абвяржэннямі, назваўшы прыведзеныя дакладчыкам факты «базарнымі плёткамі», чым выклікаў незадаволенасць парламентарыяў. Плёткі гэта ці не плёткі, — пакажа час, але лічу, што ў адным наш галоўны банкір меў рацыю — нельга без папярэдняга судовага разгляду публічна, на ўсю рэспубліку, называць чалавека злачынцам.

І яшчэ адна заўвага. У мяне асабіста выклікае пэўнае неўразуменне само стварэнне камісіі А. Лукашэнкі. Яна, вядома, легітымная, бо была створана па рашэнні ВС. І ўсё-такі задамося пытаннем: чаму выкрыццём злачынстваў у дзяржаве павінна займацца парламенцкая камісія на чале з чалавекам, які нават не мае юрыдычнай адукацыі? Мала таго, з вуснаў некаторых дэпутатаў, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні дакладаў, прагучалі прапановы надаць камісіі Лукашэнкі статус пастаянна дзеючай. Цікава, чым тады павінны займацца міліцыя, КДБ, пракуратура, суды, падатковыя інспекцыі, нарэшце — Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, якой у гэтых пытаннях, як кажуць, усе карты ў рукі? І менавіта яна павінна была, на маю думку, выступіць на сесіі з падобным дакладам. Магчыма, ён бы не меў такога скандальнага і сенсацыйнага характару. Але ж мы здаўна ведаем: там, дзе многа шуму...

**М. ЗАМСКІ**

З пошты тыдня

# «ЗА ДЗЯРЖАВУ КРЫЎДНА...»

Даўно з'яўляюся падпісчыкам «ЛіМа». Ведаю, што часам вы закранаеце і пытанні новай беларускай філатэліі. Дзякуй вам за гэта. Часцей за ўсё менавіта з вашай газеты можна было даведацца аб нечым новым у гэтай галіне.

Хутка Каляды, задумаў купіць некалькі паштовак. На паштовым аддзяленні N 2 г. Віцебска такія-сякія паштоўкі ёсць — і рускамоўныя, і беларускія. Апошнія аж занадта «інтэрнацыянальныя»: закрый надпіс — і ўжо нізашто не скажаш, у якой краіне яны выдадзены. Аднак гэта асобная размова. Я ж вось пра што.

З-за частай адсутнасці беларускіх паштовых марак зараз устанавілі паштовыя машыны, якія ставяць брыдкія брудныя штэмпелі амаль што на палову канверта або паштоўкі. Якое ж было маё здзіўленне, калі на гэтым штэмпелі я прачытаў «Почта России»! А можа,я дарэмна абураюся? Можа, ёсць ужо нейкі «саюз» расійскай і беларускай пошты, і няма аб чым хваляваціца? Хаця, уявіце сабе сітуацыю, калі б у Смаленску пачалі ставіць штэмпелі «Пошта Беларусі», а ў Гродне «Póczta Polska», я думаю, рэакцыя ўсё ж была б. Да гэтага трэба дадаць і штэмпелі з надпісамі нават не на дзвюх, а на адной расійскай мове.

У Віцебску ў вялікай колькасці прадавалі і паштовыя карткі з надрукаванымі на іх паштовымі маркамі Расіі. Паспрабаваў іх паслаць — прайшло без праблем. Наступным разам можна паспрабаваць паслаць ліст з паштовымі маркамі Літвы або Эфіопіі — можа, і яны дойдуць? Беларускай пошце ж усё роўна.

Не думаю, што такія паштовыя машыны «Почта России» /і не ў адным жа экземпляры!/ закупілі ў Расіі з мэтай нейкай правакацыі. Хутчэй за ўсё гэта наша бязмежная абыякавасць. Так, ёсць праблема, друкаваць уласныя паштовыя маркі цяжка і дорага /ды, здаецца, і не вельмі хочацца/, але ж і абыякавасць павінна мець нейкія межы. Хоць, не сакрэт, што такія «недарэчнасці» калекцыянеры адарвуць з рукамі, а за мяжой і валютай заплоцяць, бо гэта ж не жартачкі: на адным канверце маркі дзвюх розных дзяржаў, /да таго ж штэмпель неіснуючай дзяржавы — СССР/ з надпісам толькі на замежнай мове. А, можа, і Гінеса патурбаваць прыйшоў час? Толькі вось у які раздзел трапіць Беларусь? Каб не было потым «за державу обидно».

**С.ЯКАЎЛЕЎ**

*г. Віцебск.*

Кола дзён

# ГЕРОЯМ ВЫЗВОЛЬНАГА ЧЫНУ

***На мінулым тыдні адбылася прэс-канферэнцыя Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года.***

Старшыня аргкамітэта мастак М.Купава ва ўступным слове адзначыў, што, ушаноўваючы памяць герояў вызвольнага паўстання, адраджаючы нацыянальныя культурныя традыцыі і гістарычную памяць, мы ў нейкім сэнсе вяртаем запазыку перад сусветнай супольнасцю. Бо шмат дзесяцігоддзяў беларусаў за еўрапейскім сталом не было, не гучаў наш голас у сусветным хоры, — і цяпер мы маем не тое што патрэбу, а абавязак выказацца за ўсе гэтыя гады вымушанага маўчання.

Гісторык У.Емяльянчык гаварыў, што імперская і савецкая гістарычная навука трактавала паўстанне як выключна польскае, да Беларусі ніякім чынам не датычнае. Але гэта мана, прычым мана свядомая, палітычна накіраваная. На Беларусі вайсковыя дзеянні доўжыліся паўгода. Яны ахапілі тэрыторыю Віленшчыны, Міншчыны, Магілёўшчыны. Недзе 30—40 тысяч /па розных крыніцах/ мясцовага люду выступілі супраць маскоўскіх акупантаў. Паўстанне мела вызвольны, агульнадэмакратычны і антыманархічны характар. Удзел у ім брала не толькі шляхта /што было натуральна/, але сяляне і мяшчане, вернікі ўсіх канфесій. Вядомыя словы Касцюшкі: «Я за адну шляхту кроў праліваць не збіраюся». Больш высокая мэта бачылася правадыру паўстання: «умацаваць дрэва Свабоды аж на берагах Нявы».

Гісторык І.Саверчанка спыніўся на дзяржаўна-патрыятычным аспекце паўстання. Сцвярджаюць, нібыта Люблінская унія /1569/ паклала канец дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага. Гэта не так. Шматлікія заканадаўчыя акты сведчаць, што да самага знікнення Рэчы Паспалітай з палітычнай карты Еўропы Княства захоўвала свой суверэнітэт, незалежнасць ад Польскай Кароны. І ўвогуле правячыя колы Літвы /Беларусі і Жамойці/ глядзелі на Польшчу, як на саюзніка, навязанага жорсткімі абставінамі, пагрозай Масковіі. І кожным разам, як толькі гэтая пагроза крыху сціішвалася, Вялікае княства рабіла рашучыя захады на разрыў хаўрусу з Польшчай. У час вызвольнага паўстання ліцвіны змагаліся не за Польшчу, а за сваю дзяржаву.

Навуковец А.Мальдзіс пазнаёміў прысутных з нядаўнімі публікацыямі пра паўстанне Касцюшкі ў рускамоўным друку Беларусі /у прыватнасці — «Мы и время»/. Публікацыі, мякка кажучы, хамскія. У той час, як у Польшчы вядзецца сур'ёзная падрыхтоўка да святкавання 200-х угодкаў паўстання, у друку Польшчы выказваюцца слушныя меркаванні аб неабходнасці міжнароднага супрацоўніцтва ў гэтай справе.

Мастак Я.Кулік выказаў думку, што ўшанаванне памяці Касцюшкі павінна паспрыяць «дэсуварызацыі» Беларусі. Бо насуперак здароваму сэнсу слуга расійскіх імперыялістаў, на чыім сумленні кроў барацьбітоў за незалежнасць нашай краіны, на Беларусі афіцыйна ўхваляецца як ледзь не нацыянальны герой. Берасцейскія ўлады нават збіраюцца ў бліжэйшы час аднавіць абеліск у гонар паходу Суворава «в западные области России в 1794 году».

Старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўніку М.Статкевічу было зададзена пытане: «Згодна надрукаванай у газеце «Свабода» інфармацыі, дзяржсакратар сп. Данілаў і Саўмін увогуле перашкаджалі сёлета святкаванню Дня беларускай вайсковай славы — чарговай гадавіны Аршанскай перамогі, бо гэтае свята не падабаецца паслу Расіі сп. І.Сапрыкіну. У лістападзе ў інтэрв'ю газеце «Феміда» сп.Сапрыкін сказаў наступнае: «Сейчас готовится очень неприятная, как мне кажется, политическая акция в связи с 200-летием восстания Костюшко. Все это отдает русофобией и мне очень не нравится». Ці не будуць і зараз урадавыя структуры Беларусі ставіцца да святкавання 200-х угодкаў паўстання, зыходзячы з дырэктыў расійскага пасла?» У адказ М.Статкевіч параіў сп.Сапрыкіну пацікавіцца, што гаворыць той жа Данілаў, іншыя чыноўнікі Саўміна, народныя дэпутаты з ліку ветэранаў і камуністаў пра прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, пра расійскі ўрад, пра дзяржаўны лад Расіі — там ён сапраўды знойдзе тое, што «отдает русофобией» і павінна яму, як паслу Расіі, «не понравиться».

У сувязі з пытаннем: «Хто дапамагае і хто перашкаджае дзейнасці аргкамітэта?» на прэс-канферэнцыі было прыгадана, што на прапанову надрукаваць спецыяльны каляндар, прысвечаны слаўным угодкам, ад кіраўніка аднаго выдавецтва пачулі: «Яшчэ адно святкаванне — і мы застанёмся без нафты» /у сэнсе, не нервуйце Расію.../.

На заканчэнне журналістам была раздадзена праграма святкавання, распрацаваная аргкамітэтам.

**В.БОГУШ**

Памяркуем

# ПАТРАБУЮЦЦА ЛІДЭРЫ!

Пачну з двух выпадкаў, што адбыліся на мяжы 70—80-ых гадоў. Як супрацоўніца літаратурнай рэдакцыі тэлебачання, я праходзіла курсы ўдасканалення, дзе пашыралі наш кругагляд: чыталі лекцыі шмат па якіх галінах ведаў, у тым ліку і па эканоміцы. Лектар, наколькі я памятаю, — выкладчык адной ВНУ, чалавек яшчэ досыць малады, даводзіў нам рэчы, супрацьлеглыя таму, што мы прывыклі чуць, і, як на той час, надта крамольныя. Узброены лічбамі і фактамі, ён сцвярджаў, што эканоміка СССР у заняпадзе, абмалёўваў бязрадасную карціну будучага. Аўдыторыя выглядала прыгнечанай. Здавалася, што зараз увойдуць дужыя малайцы і павядуць нашага разумнага лектара проста за турэмныя краты.

Тады ўжо, праўда, за такое не вадзілі. Існавалі іншыя метады ўздзеяння на іншадумцаў. Пра адзін з такіх метадаў — другі выпадак — расказала мне выпадковая суседка па гасцініцы. Маладыя навукоўцы Гомельскага універсітэта надумалі вылічыць, колькі працягне Беларусь на ўласных рэсурсах, калі стане незалежнай. Натуральна, спатрэбіліся эканамічныя дадзеныя, складаныя разлікі. Вынікам матэматычнай «забавы» сталася тое, што «вылічальнікаў» завезлі ў мясцовую псіхбальніцу і нашпілялі ім супакаяльных уколаў. Органы бяспекі, як вядома, не спалі і небяспеку секлі пад корань.

Вось я і думаю цяпер, калі самы час разгарнуцца нашым незалежнікам: дзе той небаязлівы лектар і чаму ён сёння не заняў сабой экран тэлевізара, як Гайдар ці Яўлінскі — у Расіі?

Дзе тыя гомельскія вучоныя, што прароча апярэдзілі падзеі, мадэлююючы нават не сённяшні — заўтрашні наш стан? Не хацелася б думаць, што здзеклівы ўрок сістэмы назаўжды адвучыў іх самастойна мысліць і дзейнічаць.

Патрабуюцца лідэры! Катастрафічна не стае людзей, якія спалучалі б у сабе інтэлект і характар, патрыятызм і палітычны талент, людзей, здольных аб'яднаць усе прагрэсіўныя сілы краіны пад бел-чырвона-белым сцягам.

Зноў спашлюся на прыклад суседзяў. Там не толькі спектр вясёленькі — ад Шунейкі да Жырыноўскага, ад Гаварухіна да Зюганава, але і колькасна намнога больш людзей яркіх, адметных, здольных на ўчынак. /Заўважым, між іншым, што там палітычныя «зоркі» неяк вельмі ж хутка знікаюць з небасхілу — хто на нары трапляе, хто ў няміласць, але гэта ўжо іхнія праблемы/.

У нас жа, як кінеш вокам, карціна маласуцяшальная. І не таму, што няма Жырыноўскага /затое ёсць граф Прушынскі!/. У абедзвюх вярхоўных уладах пануе дзіўная безаблічнасць. Адны зацікаўлены, каб рабіць свае справы без лішняй рэкламы, другія «ціхія» па сваёй бяздарнасці. Трэція толькі і робяць, што самасцвярджаюцца «наадварот». Згадаем, як марна выдаткоўвае на агрэсію свой нерадавы тэмперамент А.Лукашэнка, як натхнёна выконваў «сацыяльны заказ» — капаў яму датэрміновым выбарам — Д.Булахаў, як згуртавана ішла ў наступ на спікера «маладзечанская тройца».

На гэтым фоне прыкметна вылучаецца дэпутацкая апазіцыя БНФ — як слушнасцю канкрэтных прапаноў /якіх, аднак, ніхто не слухае/, так і агульнай скіраванасцю ў бок нацыянальных інтарэсаў і здаровага сэнсу.

Не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, мушу запыніцца і на персаналіях. Выбар тут адвольны, чыста суб'ектыўны.

Па-ранейшаму ўпэўнена, з разуменнем гістарычнай перспектывы гне сваю лінію Зянон Пазняк. Уся складанасць у тым, што да яго, як мне падаецца, проста не дарос беларускі народ — як па ўзроўні самасвядомасці, так і па ступені непрыняцця камуністычнай ідэі. Як той казаў, выпадак цяжкі...

Пры ўсёй дыпламатычнасці нажыў сабе ворагаў у абодвух станах Пётр Краўчанка. У свой час ён першым з былой наменклатуры павярнуўся тварам да беларушчыны, але, мабыць, праявіў болей ініцыятывы, чым некаму хацелася б...

Збіраецца з чужыны ехаць дадому прызнаны грамадскі дзеяч /у лепшым значэнні слова/ Г.Бураўкін. Свежым вокам ён шмат што ўбачыць у нас па-іншаму.

У цяні прэм'ера пакуль што трымаецца М.Дзямчук /што значыць трапіць не ў тую каманду!/. Яго інтэлект і кіраўнічы вопыт яшчэ могуць паслужыць Беларусі.

З маладзейшых паслядоўна і пераканаўча адстойвае незалежніцкія ідэі Л.Баршчэўскі. Хай бы хто падлічыў, колькі на яго душу ў ВС даводзіцца ветэранаў-адстаўнікоў і дэпутатаў-статыстаў. Цікавая атрымаецца прапорцыя.

Прыходзіць на памяць яшчэ колькі імёнаў — асоб дзяржаўнага маштабу, безумоўна прыстойных і аўтарытэтных, але не схільных, закасаўшы рукавы, рабіць чорную работу, расчышчаць дарогу новаму. От каб хто расчысціў, каб хто ўручыў ім уладу гатовенькай, тады б яны з годнасцю прынялі дар. А можа, час цяпер такі і ўлада такой вартасці, што толькі выбрудзішся аб яе, пашкадуеш потым сто разоў, а народ пры тым самым і застанецца?..

Верагодна, што дзесьці спеюць-выспяваюць іншыя патэнцыяльныя лідэры. Аднак паспрабуй праявi вадзіцельскія здольнасці без руля! А руль той далёка-далёка, і людзей пры ім гусценька-гусценька... І ўсё не тыя.

Такое вось посткаланіяльнае бязрыб'е. Тутэйшая звычка сядзець угнуўшыся і ціха — як вынік падсаванага генафонду або вымушанай неразвітасці. Няшчасны народ, які не выгадаваў сабе адданых правадыроў і не спадзяецца на прарока ў сваёй айчыне. Няўжо сапраўды мае рацыю француз, што кожны народ варты свайго ўрада?..

**Г.К.**



Святы

# У ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ



На беларускую зямлю прыйшло свята, якое будзе доўжыцца амаль год: паўстагоддзя назад пачалося вызваленне нашых гарадоў і вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адным з першых, восенню 1943 года, быў вызвалены Хойніцкі раён. На слаўны юбілей у Хойнікі з'ехаліся былыя франтавікі і партызаны не толькі з нашае краіны, але і з іншых незалежных дзяржаў былога СССР. Арганізатары свята запрасілі таксама дзеячаў культуры і мастацтва — сваіх землякоў. Адгукнуліся мастакі Уладзімір Гардзеенка і Уладзімір Васюк, паэт Мікола Мятліцкі і іншыя. У наш няпросты час раённыя ўлады паклапаціліся аб тым, каб, нягледзячы на ўсе цяжкасці, у гэты дзень панавала сапраўды святочная атмасфера. Былі наладжаны выстава мастакоў-землякоў, сустрэчы ветэранаў са школьнікамі, ушанаванне памяці загінуўшых, «салдацкая каша» ў лясным кутку, урачысты вечар і святочны канцэрт...

Падчас урачыстасцяў адбылася і яшчэ адна значная падзея — прэзентацыя дабрачыннага фонду «Палескі смутак», нядаўна зарэгістраванага Мінюстам Беларусі. Прэзідэнт фонду, паэт М.Мятліцкі, разам з ветэранамі-вызваліцелямі пабываў у сваёй роднай вёсцы Бабчын, пасля чарнобыльскай катастрофы адселенай, пакінутай людзьмі. Галоўнай задачай новага фонду будзе якраз зберажэнне, захаванне гістарычнай і культурнай спадчыны такіх вось страчаных для нас вёсак, а таксама дапамога літаратарам, мастакам, кінематаграфістам у стварэнні твораў пра наступствы, што нясе нашай зямлі Чарнобыль...

Жудаснае ўражанне пакінула ў ветэранаў наведанне Бабчына. У 1943 годзе, пасля двухгадовага панавання фашыстаў, іх сустракалі тут з радасцю, у вачах людзей свяцілася надзея, што на папялішчах будзе пабудавана новае, шчаслівае жыццё. Цяпер жа, на восьмы паслячарнобыльскі год, іх не сустрэў ніхто. Толькі пустыя, дабротныя, пабудаваныя на гады, хаты.

— Пэўна, праз дзесяткі, сотні гадоў сюды зноў вернуцца людзі, — сказаў Мікола Мятліцкі, — але для майго пакалення гэта зямля страчана назаўсёды... Таму мы і хочам захаваць для нашых нашчадкаў памяць пра яе, пра тое, якой яна была, пра тых, хто на ёй жыў. Каб ведалі людзі, што вяртаюцца яны не на голае месца...

Фонд толькі пачынае сваю дзейнасць. Для тых, хто хацеў бы дапамагчы фонду ў яго станаўленні, паведамляем разліковы рахунак, на які можна перавесці сродкі — 700711 у АКБ «Беларускі народны банк» г.Мінска, код 765, фонд «Палескі смутак».

*На здымках: дырэктар раённага краязнаўчага музея, ветэран вайны А.Зелянкоўскі і М.Мятліцкі падчас прэзентацыі; ветэран ля пакінутай хаты, дзе нарадзіўся паэт.*

*Фота І.БАРЫСАВА*

# ХТО ДАПАМОЖА НАСТАЎНІКУ

***Ва ўсе гады савецкай улады настаўнікі фармальна знаходзіліся ў пашане. Кампазітары, выконваючы палітычны заказ, складалі пра іх песні, самыя славутыя рэжысёры ставілі кінафільмы, дзяржава прысвойвала ім ганаровыя званні. На самай жа справе савецкі настаўнік заўсёды знаходзіўся на адной з ніжэйшых прыступак сацыяльнай лесвіцы.***




У «ЛіМе», помню, быў некалі надрукаваны нарыс выдатнай нашай пісьменніцы Веры Палтаран пра сельскіх настаўнікаў, якія вымушаны былі разрывацца паміж школай і хатняй гаспадаркай — агародам, жыўнасцю, без якой на мізэрную зарплату было не пражыць. А, між тым, нядаўна я вычытаў у адным артыкуле, прысвечаным жыццю дарэвалюцыйнага настаўніцтва, што, аказваецца, вясковаму настаўніку тады забаранялася мець падсобную гаспадарку, каб яна не замінала яму выконваць яго прафесійныя абавязкі. На сваю зарплату тагачасны настаўнік мог утрымліваць сям'ю з чатырох чалавек, ды яшчэ наймаць эканомку, кухарку, горнічную або гувернантку для сваіх дзяцей. У час летніх вакацый настаўнікі за кошт дзяржавы маглі рабіць падарожжа па культурных мясцінах Расійскай імперыі, а таксама па святых месцах за яе межамі /Канстанцінопаль, Палесціна, Рым і г.д./.

З той публікацыі я даведаўся і пра такі цікавы факт: у 1913 годзе зарплата настаўнікаў, як і ўсёй інтэлігенцыі, у 20 разоў перавышала зарплату людзей, што займаліся фізічнай працай. Хоць і заробак рабочага, заўважым, быў па тым часе не такі ўжо і малы. За грошы, заробленыя за дзень, можна было купіць на рынку 2—3 кілаграмы мяса ці літр гарэлкі.

Пасля грамадзянскай вайны, у дваццатыя гады, матэрыяльны стан настаўнікаў хоць і пагоршыўся, але ўсё роўна яны належалі да высокааплачваемай катэгорыі грамадзян.

Варта адзначыць і такі факт — сярод настаўніцтва ўжо савецкага перыяду па першым часе працягвала захоўвацца старая традыцыя, паводле якой прафесія настаўніка лічылася чыста мужчынскай. Пра гэта сведчыць і фотаздымак, які я прыкладаю да свайго артыкула. Зроблены ён у 1929 годзе на Мінскіх настаўніцкіх курсах. Сярод 72 слухачоў, трапіўшых на фотаздымак, толькі 17 жанчын /сярод іх і мая бабуля/.

Да пачатку Айчыннай вайны ў педагагічных калектывах школ было ўжо жанчын палова. Сёння яны складаюць пераважную большасць настаўнікаў.

Чаму адхінуліся ад гэтай прафесіі мужчыны? Думаю, у першую чаргу з-за нізкай аплаты працы настаўніка. Мужчына ўсё-такі заўсёды быў асноўным карміцелем сям'і. Да 1990 года зарплата выкладчыкаў сярэдніх школ, тэхнікумаў і вучылішчаў была ўжо на 25 працэнтаў ніжэйшай за сярэднюю зарплату па рэспубліцы.

У 1991 годзе пасля рабочых страйкаў, Вярхоўны Савет, відаць, з-за боязі таго, што да іх далучацца і настаўнікі, прымае закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». У яго 34-м артыкуле пішацца, што: «сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў устанаўліваецца не ніжэй сярэдняй зарплаты служачых у прамысловасці...» Здавалася б, добра? Але настаўнікі рэспублікі зарана радаваліся. Амаль тут жа Вярхоўны Савет прымае пастанову, паводле якой нагаданы артыкул 34-ы і першая частка артыкула 37-га, дзе гаворыцца аб выдаткаванні на патрэбы адукацыі 10 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту, будуць уведзены ў дзеянне з 1 студзеня 1994 года. Праўда, сякое-такое павышэнне зарплаты ў рэспубліцы, што павінна было неяк кампенсаваць шалёны рост інфляцыі, не абмінала і настаўніцкі корпус, але ўжо ў верасні 1992 года зарплата педработнікаў складала ўжо 65,3 працэнта ад сярэдняй зарплаты служачых, занятых у прамысловасці.

Нізкая зарплата, сацыяльная няроўнасць першымі штурхнулі на аб'яўленне страйка настаўнікаў сталічнай сярэдняй школы N 160. Сярод іх патрабаванняў было і такое: неадкладна ўвесці ў дзеянне нагаданы вышэй 34-ы артыкул Закона аб адукацыі.

Каля пяцідзесяці педагагічных калектываў Мінска гатовы былі далучыцца да бастуючых калег, але афіцыйны прафсаюз настаўнікаў, які, як і ўсе савецкія прафсаюзы, заўсёды з'яўляўся паслухмяным праваднікам дзяржаўнай палітыкі, зрабіў усё магчымае, каб сарваць гэтую забастоўку. Старшыня прафсаюза Т.Чобатава затлуміла галаву настаўнікам рознымі абяцанкамі, якія зводзіліся да таго, што, калі ўрад не павернецца нарэшце да іх тварам, не прыме захадаў да паляпшэння матэрыяльнага становішча школьных работнікаў, яна першая заклікае іх да забастоўкі.

Але патрабаванні педагагічных калектываў, фактычна, так і не былі задаволены, хоць спадарыня Чобатава і вяла, дарэчы, шырокарэкламаваныя ў друку, перамовы з прадстаўнікамі ўрада. Пасля заспакаення настаўнікаў ім трохі павышаюць зарплату, але і пасля гэтага ў снежні 1992 года яна складае 92 працэнты, а ўжо ў студзені 1993 толькі 84,7 працэнта ад сярэдняй зарплаты служачых, што працуюць у прамысловасці.

Каб пракарміць свае сем'і, многія настаўнікі вымушаны браць на сябе дадатковыя нагрузкі. Сёння ў рэспубліцы на кожнага настаўніка прыпадае ў сярэднім па 1,6 стаўкі, што, па-першае, негатыўна адбіваецца на якасці выкладання, а, па-другое, такая праца на знос вядзе да нервовых стрэсаў, розных хвароб.

Бывае, можна пачуць ад недасведчаных людзей, што яны, настаўнікі, знаходзяцца ў прывілеяваным становішчы, бо маюць магчымасць адпачыць у час летніх канікул. Але вось вам такая лічба /праўда, яна васьмігадовай даўнасці, але, думаю, не зменшылася/ — больш як 60 працэнтаў выкладчыкаў мужчын, не толькі агульнаадукацыйных школ, а і вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў, кожнае лета выязджаюць на заробкі — узводзяць у сельскай мясцовасці дамы, жывелагадоўчыя памяшканні, іншыя гаспадарчыя аб'екты, адным словам, ператвараюцца ў шабашнікаў.

Можна толькі ўявіць, як цяжка ім потым пераключацца на выкладчыцкую, педагагічную працу.

Набліжаецца новы 1994 год, але мы, настаўнікі, не маем ніякай упэўненасці ў тым, што Закон аб адукацыі будзе ўведзены ў дзеянне ў поўным аб'ёме. Зноў мы пачуем спасылкі на эканамічныя цяжкасці ў рэспубліцы. Хіба што падкінуць чарговую падачку, каб неяк пагасіць гаснучае вуголле незадаволенасці сваім становішчам сярод настаўнікаў Беларусі.

Па ўсім відаць, што нашаму ўраду непасрэдна Міністэрству адукацыі непатрэбна школа, якая ў стане выхаваць свядомае дэмакратычна мыслячае, адданае ідэалам адраджэння дзяржавы маладое пакаленне. Усё робіцца для таго, каб пакінуць старыя формы навучання, заснаваныя яшчэ таталітарнай сістэмай. Адсюль і здзек, які многія дзесяцігоддзі чыніцца над настаўніцкім корпусам рэспублікі.

**А.ГАЙКО,**
настаўнік, старшыня свабоднага прафсаюза школы-гімназіі N 159 г.Мінска

З пошты "ЛіМа"

# ВЕЧНЫ АГОНЬ

***Кожны раз, калі я праязджаю плошчу Перамогі, успамінаю пра Вечны агонь, які гарыць тут, на адной з галоўных плошчаў Беларусі. Вечны агонь — ён стаў нашым сімвалам, глыбокі сэнс якога мы яшчэ не зразумелі. З маленства нас вучылі, што агонь гэты запалены ў гонар усіх змагароў за светлыя ідэалы рэвалюцыі і марксізму-ленінізму. З яго спрабавалі зрабіць стода, да якога мы павінны былі з пакланеннем прыносіць свае ахвяры — кветкі. Я не хачу, каб мяне зразумелі так, што я выступаю супраць змагароў за Радзіму і заклікаю не шанаваць памяць тых, хто склаў свае галовы за сваю зямлю і народ. Я хачу сказаць зусім пра іншае. І найперш хачу сказаць, што сапраўдны сімвал нашага народа не Пагоня, а Вечны агонь. Той, хто добра знаёмы са Святым Пісаннем, зразумее мяне.***

Наш народ мае вельмі складаны і трагічны лёс. Увесь час зямлю нашу нехта заваёўваў, нехта з некім біўся. У рэшце рэшт, мы апынуліся ў стане эмігрантаў на сваёй зямлі. Мы прыгнечаныя і прыніжаныя. Што здарылася? Чаму нам выпаў гэткі лёс? Нашы гісторыкі і мысліцелі спрабавалі знайсці адказ на гэтае пытанне, але нічога зразумелага не сказалі. Давайце зірнём, што скажа нам Біблія.

У Бібліі няма канкрэтнага звароту да беларусаў, але кніга гэтая дадзена ўсім народам, у тым ліку і нам. Ды шмат якія сітуацыі, што там апісаны, добра нам знаёмыя. Так, чытаем у Другазаконні, 28 раздзел 43 і 44 вершы: «Прыхадзень, які сярод цябе, будзе ўзвышацца над табой вышэй і вышэй, а ты апускацца будзеш ніжэй і ніжэй. Ён будзе даваць табе пазыку, а ты не будзеш даваць яму пазыку; ён будзе галавою, а ты будзеш хвастом». Ці не знаёма нам гэта? Прадстаўнікоў якое нацыянальнасці найменшы працэнт сярод нашых бізнесменаў і кіраўнікоў і найбольш сярод рабочых і сялян? Ці не беларусаў? Чытаем у 20-м вершы: «Пашле Госпад на цябе пракляцце, узбурэнне і няшчасце ва ўсякай справе рук тваіх, якую не станеш ты рабіць, дакуль не будзеш вынішчаны, — і ты хутка загінеш за злыя справы твае, за тое, што ты пакінуў Мяне».Мы шукаем выйсця з крызісу, адну эканамічную праграму замяняем другой, сацыяльную эканоміку перарабляем на рыначную, ды ўсё дарма. І не будзе нам ніякага плёну ад працы нашае, бо мы не ведаем галоўнага. А ці не пра нас гэта пісаў прарок Аггей /1:6/, які нават і падумаць не мог, што некалі будзе такі народ — беларусы, бо жыў дзве з паловай тысячы гадоў таму: «Вы сееце шмат, а збіраеце мала; ясце, але не да сытасці; п'яце, але маеце смагу; апранаецеся, але не сграваецеся; хто зарабляе плату, зарабляе яе дзеля дзіравага гаманца». Як усё дакладна сказана! І пра нашу бязгаспадарчасць, і пра дэфіцыт, і пра інфляцыю. Прачытаем цяпер 45 верш 28 раздзела Другазаконня: «І прыйдуць на цябе ўсе праклёны гэтыя, і будуць праследаваць цябе, і насягнуць цябе, пакуль не будзеш вынішчаны, за тое, што ты не чуў голаса Госпада, Бога твайго, і не захоўваў запаведзяў Яго і пастаноў Яго, якія Ён запаведаў табе». А цяпер у прарока Амоса ў 4 раздзеле 9 вершы прачытаем: «Я паражаў вас іржою і свянасцю хлеба, і мноства садоў вашых, і вінаграднікаў вашых, і смокваў вашых, і аліў вашых пажэрлі вусені, — і пры ўсім гэтым вы не навярнуліся да Мяне, кажа Гасподзь». Хоць наш народ і не вырошчвае вінаград і смоквы, але сэнс гэтых радкоў відавочны. Але мы ў сваім гаротным стане гатовы абвінаваціць усіх, толькі не сябе. Вінаватыя маскалі, жыды, ляхі, — усе вінаватыя, што нам так кепска, толькі мы не вінаватыя.

Усе мы енчым, што жыць нам цяжка, але гэта не можа ісці ні ў якое параўнанне з тым, што нас чакае. Прыйдзе Дзень суда Ісуса Хрыста, калі Ён будзе судзіць народы і паставіць праведных на правы бок, грэшнікаў — на левы. У Евангеллі Мацвея /25:41/ пра гэта напісана: «Тады скажа і тым, што налева: ідзеце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, прыгатаваны д'яблу і ангелам ягоным». Вечны агонь — гэта пекла. І наш народ мае жахлівы сімвал.

Нехта называе Адраджэнне нашага народа чацвёртым, нехта — пятым. Ці адродзіцца народ наш зараз? Ці не згіне яго мова, культура? Чаму мы не мелі поспеху раней, чаму гінулі нашы культурныя здабыткі, разам з лепшымі сынамі і дочкамі нашай зямлі? Можа, таму, што забыліся на словы Госпада: «Нічога без Мяне не можаце рабіць»?

І, нарэшце, галоўнае пытанне: «Што рабіць?» Святое Пісанне дае нам адказ вуснамі Апостала Пятра /Дзеянні, 3:19/: «Дык пакайцеся й навярніцеся, каб былі зняты з вас грахі вашыя». Гісторыя ўжо ведае прыклады выратавання пэўных народаў. У кнізе прарока Іоны ў 3-м раздзеле апісана, як асірыйскі народ пакаяўся ў сваіх грахах і быў выратаваны: «І ўбачыў Бог справы іх, што яны сыйшлі са злога шляху свайго, і пашкадаваў Бог аб навале, аб якой сказаў, што навядзе на іх, і не навёў».

Я разумею, што ёсць шмат скептыкаў, якія ставяць пад сумненне існаванне Бога. Я павінен сказаць, што яны вельмі памыляюцца. Я штодзённа, у тысячах жыццёвых дробязяў пераконваюся, што гэтыя скептыкі памыляюцца. У Госпадзе я знайшоў вырашэнне ўсіх сваіх праблем. Я знайшоў спакой душы і ўпэўненасць у прышласці. Хаця я быў грэшнікам, але з ласкі Бога я атрымаў той скарб, які прагнуць знайсці шмат якія людзі, і не знаходзяць, бо не там шукаюць.

Калі ты, дарагі чытач, шчыра шукаеш праўду, ты можаш знайсці яе. Для гэтага ўтвары малітву да Бога: «Дарагі Гасподзь, Айцец наш нябесны, я дзякую Табе за ласку і любоў да людзей. У імя Ісуса Хрыста прашу Цябе: даруй мне грахі мае, пашлі мне Слова Тваё святое, адкрыйся мне, каб мне ўбачыць Цябе. Гасподзь, прашу Цябе: дзейнічай у маім жыцці, вырашы ўсе мае праблемы, дай мне здароўе фізічнае і духоўнае. Слава Табе, Трыадзінаму Богу, Айцу, Сыну і Духу Святому. Амін». Гэтую малітву ты можаш узнесці да Бога ў любы зручны для сябе час, у любым месцы; можна шэптам, можна ўголас, можна ў думках. Можаш паўтарыць некалькі разоў, але колькасць мала што дае, галоўнае — перад Богам шчырасць, дух пакаяння. /Прачытай у Лукі 18:9-14 прыпавесць пра фарысея і мытніка/. Можаш быць упэўнены — Гасподзь дапаможа.

Калі з'явіцца жаданне болей даведацца пра Бога, пра выратаванне, якое Ён нам абяцае, прыходзь у Беларускую Евангельскую Царкву. Нас можна знайсці штоаўторка з 18 да 20.30 у бібліятэцы імя Пушкіна /2-гі паверх/, якая знаходзіцца па вул. Гікалы, 4 /каля ЦУМа/. З кастрычніка ў нас будзе магчымасць праводзіць набажэнства ў нядзелю з 17.00. Калі ёсць пытанні, пішыце: 220117, Мінск, Любімава, 21-56, або тэлефануйце: 70-89-87.

Хай дабраславіць Вас Гасподзь.

**Андрусь ДЫЛЮК,**
студэнт-завочнік Беларускага біблейскага інстытута

*...Рэчы насяляюць чалавечы свет, яго рэчаіснасць, і жыццё чалавека цячэ ў рэчышчы, абумоўленым рэчамі, не могучы выхіліцца з-пад іхняга ўплыву і не могучы заставацца там, дзе застаюцца яны.*

*Страчваючы рэчы, чалавек сірацее, нібыта страчваюцца яго стрыечныя двайнікі, і набывае новыя магчымасці ў новай сустрэчы з імі.*

*Чалавек трымаецца за рэчы, як за парэнчы, і яшчэ невядома, хто болей каго не хоча адпусціць ад сябе — ці ён іх, ці яны яго.*

**/Алесь Разанаў. «Рэчы»./**

Юрась ЗАЛОСКА

# ГАСПАДАР ГРААЛЯ

## КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ НАРЫС-ЭСЭ

Першапачаткова гэты нарыс меў назву «Галерэя Міхася Раманюка». У сэнсе — галерэя жанчын... А пачынаўся прыблізна так: «...Гэтыя жанчыны пераследуюць мяне неадступна: як бы ні сталі прывычнымі іх твары, як ні знаёмыя іх іпастасі, прытоеныя ўсмешкі, драбніцы апраткі, — усё роўна яны зноў і зноў пераможна займаюць сцены майго новага гарадскога жытла і — глядзяць пакепліва на свайго гаспадара, іх паклонніка і палонніка, уладальніка гэтай папяровай ГАЛЕРЭІ...» Ды потым я выпадкам глянуў на **тыраж** гэтай рамантызаванай галерэі і — затрымаўся: «Набрана на НТП. Падпісана да друку 20.12.90. Тыраж **960** экз. Цана 8 р. 50 к. Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь». «Рекламное издание» мела назву «РОМАНЮК Михаил Федорович. БЕЛОРУССКИЙ НАЦИОНАЛЬНЫЙ КОСТЮМ.. На белорусском языке». Вось тады я і зразумеў, што, бадай, «галерэі» ў 960 камплектах карцін не хопіць нават для выкладчыкаў культуры і іншых мастацтвазнаўчых дысцыплін Беларусі, не тое што — для «паклоннікаў і палоннікаў»... Дык ці варта было абмяжоўвацца гэтай загадзя асуджанай на бібліяграфічную рэдкасць — разлічанай на «аднаго дзесяцітысячнага» жыхара рэспублікі — галерэяй?

Таму давялося парыцца ў сваім папяровым загашніку і — вывалачы на свет божы сціслыя фрагменты думак з нагоды ПАЧУТАГА — запісы пасля наведвання лекцый Міхася РАМАНЮКА. Да ведама грамады: Міхась Раманюк — кандыдат мастацтвазнаўства, «беларускі сав. мастацтвазнавец, этнограф і мастак» /ЭЛІМБел, т. 4, с. 495/, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў, з чэрвеня г. г. — прафесар. Аўтар унікальнай этнаграфічнай працы-альбома «Беларускае народнае адзенне» /1981 г./.

●

*Мы ўсе — раўнапраўныя ўладальнікі спадчыны. Кожны з нас, нашчадкаў беларускага роду, можа ў аднолькавай ступені разлічваць на ўладанне спадчынай пакаленняў, прылучэнне да спракаветнай культурнай традыцыі. Перад продкамі няма лепшых і горшых нашчадкаў, усе — роўныя.*

*Трэба толькі захацець быць моцным, і ты адчуеш, як твая існасць стане напаўняцца спадчынай. І не будзе канцасупынку гэтаму напаўненню, бо яно — бясконцае. Бо ты, хто захацеў стаць моцным, таксама робішся бясконцым.*

* * *

*Усё што-кольвек матэрыялізаванае і адухоўленае, што атачала наша дзяцінства, — выпраменьвала на нас хвалі, сугучныя з Космасам... Драўляны ложак, нізкая столь, печ, смальнякі пад печчу; густая трава ўлетку пад нагамі, манументальныя сугробы ўзімку; цёплы сырадой і пахмянае сена; сабака з катом; разvoраная ўвосень глеба, з якое выпадаюць белыя камы бульбы; бабульчыны аповяды пра вайну, пра паноў, пра бежанства ў 1914 годзе, пра царкоўнапрыходскія школы, у якіх за адзін год вучыліся чытаць і пісаць... Сваркі бацькоў, якія на чымсьці не пагадзіліся... Усё гэта — дух цябестварыўшай рэчаіснасці, пяшчотная аўра дзяцінства.*

*Аўра дзяцінства, сфармаваная ў бацькоўскай хаце, відаць, застаецца, застывае нязменнай у эфірнай прасторы. Мабыць, таму спалучэнне з атрыбутамі твайго крэўнага паходжання дае нечаканы ўздым эмацыянальнай энергіі — ці то пасля наведвання музея, дзе ты пабачыў ззелянелыя бязмены і хамуты, ці то падчас спеваў гурта «Ліцьвіны», ці то гартаючы альбом М. Раманюка...*

*Дома, аднак, ты даўно ўжо не раўнапраўны насельнік, а — прышэлец. Звычайна бракуе часу, каб узнавіць* ***цалкам*** *страчаную повязь з домам. Чагосьці будзе не ставаць заўсёды...*

* * *

*Застаецца толькі адно: усёчасна* ***вяртацца*** *дамоў. Бо ён яшчэ стаіць, наш Дом, яшчэ жывыя і дыхаюць яго насельнікі — нашы бацькі-вяскоўцы... Усё як і раней: узыход і заход сонца, млоснае поле, ток мовы... Усё-такі глыбінны, субстанцыйны сэнс маюць для быцця чалавечага гэтак званыя канстанты нашага існавання, тое, што не мяняецца. Нездарма англічане так шануюць свае традыцыі ад часоў тых, такія кансерватары ў сферы побыту і норавах; невыпадкова* ***дзяржаўнай*** *рэлігіяй Японіі ажно да сярэдзіны XX стагоддзя быў спракаветны паганскі сінтаізм; не ад пустога ж у Кітаі сучасным існуюць нязменнымі культы старажытных эпох, жывыя даасізм, канфуцыянства, дзэн... Добра, калі табе ёсць* ***куды*** *вяртацца.*

* * *

*Ты, урэшце, маеш права стаць «жыхаром свету» хіба толькі пасля таго, як застаўся* ***адзін*** *на гэтай зямлі. Сусветнасць — стан душы ўжо адзінокіх, страціўшых сваіх родавых папярэднікаў — бацьку і маці — людзей. Пакуль ты ў повязі з бацькамі, пакуль ты чуеш іх жывыя галасы — ты не можаш пачувацца жыхаром свету. Ты — трошкі вышэй...*

●

Што й казаць, небяспечным я аказаўся студэнтам: каб замест старанната занатоўвання слоў лектара — занатоўваць уласныя рэфлексіі **ад** слоў лектара... Ды ці трэба тлумачыць, што і ў аўтарскім стылізаваным дзённіку — усё-такі словы лектара, толькі трансфармаваныя, вядома, да ўзроўню майго асабістага бачання жыцця.

...Але як я апынуўся ў мініяцюрнай лекцыйнай зале БАМа на лекцыі М. Раманюка /прысвечанай «інтэр'еру жылля беларусаў»/? — нават і не памятаю. Пэўна, ногі самі прывялі. Для нас, блудных сыноў вёскі, у гэтым спрэс прадказальным горадзе шмат што адбываецца бессвядома, «само». Асірочанае лібіда /па К. Юнгу, а не па сп. З. Фрэйду!/ шукае вяртання да любых сілкавальных рэаліяў, да таго свету, з якога ты выйшаў у «адкрыты Космас» здэградаванай, але прыцягальнай цывілізацыі. І вось ментальна ты ў Горадзе, а на г. зв. тонкім, душэўным, сфармаваным ад вясковага дзяцінства ўзроўні — Дома, у вёсцы. І няма канца-краю гэтай драме «расчэпленага духу»...

Таму і здараецца, што а-гароджаны дух неўпрыцям шукае вяртання ў мінулае. у лона Першапрычыны і Цэласнасці.

На эмпірычным узроўні гэта выяўляецца ў змене твайго зроку: вяртаючыся /наездамі/ дамоў, ты, ужо, спазнаўшы самоту «расчэпленасці», іншымі вачамі пачынаеш глядзець на вёску; звыклыя рэаліі робяцца незвычайнымі, набываюць ледзь не сімвалічны сэнс. Добра памятаю, напрыклад, як хату майго дзеда яго дзеці-гарадчукі, прыязджаючыя ў летнія водпускі і жывучыя ў сястры, маёй маці, — называлі жартам «музеем». «Пайшлі на Груд, у музей»! — гаварылі, як збіраліся ісці ў адведкі з Навасадоў /наша вёска/ на малую радзіму, у суседнюю вёску — Груд, скуль была маці. І сапраўды, то быў музей: захавалася даўзеннай будоўлі хата /у ёй ніхто пасля смерці дзеда не жыў/; на падвор'і — хлявы, свіронак, пуня, дрывотня, істопка, склеп, калодзеж з асверам, садок з вуллямі /пчолы пераявіліся на другі год пасля смерці дзеда/. У хаце — усё цэлае: печ, печка, сярэднявечныя даўгія лавы, столкі, шафы, кросны, начынне; у сенцах — арэхавыя драбіны, кублы, цабры, саганы, кошыкі, начоўкі, жорны... На гарышчы — пэўнага прызначэння кацёл, змеявік, ёмістасці... І адзенне: безліч фартухоў, «сачэкаў», нейкіх узораў, вышытых на кавалках матэрыі; спраўных яшчэ кажухоў аўчыных. І асабліва ўражвала — не так прыгоствам, як «удобствам» — дзедава суконная шэрая бурка, пашытая да вайны паразоўскім шаўцом Іцхакам Зэйдкам адмыслова дзеля выездаў зімой у пушчу /у прыбелавежскія балоты, па сена, якое там загатаўлялі/. Казалі, дзед у ёй ніколі не замярзаў, нават у самыя моцныя маразы...

Дзеці, як бачым, нічога дзедавага не ўзялі з хаты: увесь скарб застаўся на месцы. Сапраўдны музей застаўся! Для мяне, аднак, істоты рамантычнай, дух дзедавай сялібы, дзедаўшчыны, сублімаваўся не ў бурку і не ў змеявік /хоць, папраўдзе, гадуючыся змалку летам у дзеда і бабы, часта такі прысутнічаў, седзячы на каленях у дзеда, на містэрыі «кап-кап».../, — а ў горка-церпкі пах палыну, якога на пясчанай зямлі расло немаведама колькі, і я, малы, часта блытаўся ў яго зарасніках і задыхаўся ад гэтага паху, ратуючыся ў палыне ад злосных гусей і пагрозліва-напышчаных індыкоў... Пах палыну — пах майго дзяцінства, пах маёй радзімы-прарадзімы, пах мянестварыўшай рэчаіснасці...

Вось нечакана спазнаўшы ў гэтым пачварным Менску, дзе сцены цябе не трымаюць і цяпло чалавечых адносін захоўваецца, мабыць, толькі ў межах асобных кватэр /і то не ва ўсіх/, — тугу па музеі, я і прыйшоў у майстэрню Міхася Хведаравіча Раманюка. І не памыліўся: я знайшоў у ёй дух нашага музея. Зрэшты, я цвёрда ведаў, што не магу яго не знайсці хоць дзе-небудзь, калі не ў Беларусі савецкай, дык у свеце касмапалітычным; подступы да яго ўжо былі: у Вільні, у Горадні, дзе караскаўся да старажытна-недасяжнай Каложы... паўз гэткія ж параснікі палыну, як ля дзедавай сялібы! — а ў Вільні — адчуваючы дзе-небудзь на вуліцы Субачяўс альбо ля Вострай Брамы дух музея Вялікага, усё-беларускага... У майстэрні Міхася Раманюка, на Танкавай у Менску /у адным доме, дзе жыве і Васіль Быкаў, дзе таксама майстэрня Яўгена Куліка/, я знайшоў дух музея малога, таго, дзедавага; музея-рэчы, музея-плоці, музея-вобраза... Я зразумеў, што калі хочаш свайму дзіцяці паказаць нешта музейнае, дык майстэрня Міхася Раманюка бадай што і будзе тым адзіным сапраўдным, нефальшывым музеем сярод усіх бачаных менскіх музеяў а ля «дзяржавус-грандыёзус». Гэты, раманюкоўскі музей-майстэрня дыхае домам, а майстэрня-дом — захоўвае дух музея.

* * *

— Майстэрня — мой сапраўдны Дом. Тут мне заўжды добра. Гаварыць пра мастацтва належыць толькі ў Доме, у атачэнні сваіх любімых кніг, вобразаў, рэчаў...

Таталітарызм спарадзіў два тыпы асобы ў мастацтве: адны проста надзелены талентам, якому так і так наканавана адбыцца, другія — таксама таленавітыя, але бяручыя сваё грамадскай дзейнасцю. Яны робяць тое, што т р э б а рабіць, улічваючы, што трэба рабіць; выдаюць такія творы, якія патрапляюць у поле «афіцыйнага зроку», афішуюцца, і за якія затым атрымліваюцца званні і прэміі і г. д. Важна, ці ч ы с т а е гэта выказванне мастака...

Калі было купалаўскае адраджэнне, бунтаром духу быў тэатр. Зараз на пярэднім плане мастакі. Наканаванне, выпадковасць?..

Мы збіраліся гуртамі, адзначалі розныя святы — угодкі Луцкевічаў, Малевіча, Драздовіча, Забэйды-Суміцкага, праслухоўвалі плёнкі, чыталі даклады. Было т а е м н а е духоўнае жыццё, якое мы хавалі ад КДБ.

— Чаго вам не хапала — непрыемнасцей?

— Хацелася, каб нацыя жыла. Каб жыў народ. Бо жыве народ — жывеш і ты... Люблю хадзіць на плошчу, пабыць з людзьмі. Калі была памятная дэманстрацыя БНФ са «штурмам» помніка Леніну, дык мне пашэнціла падаваць той самы шкілет... Пасля папаў на відэазапіс, але не арыштавалі...

Каб нацыя мела свой твар, ёй патрэбны музеі. У нас праблема музеяў. Я ведаю музеі і сталічныя і мясцовыя — духу Народа ў іх няма! У іх — ганаровыя граматы і медалі, сцягі і «кубкі», а сапраўднага духу народа — няма. Што сабрана ад «польскага часу», тое яшчэ захоўваецца, а глыбей — нічога няма. Работнікі музеяў пасля вайны амаль нічога і не сабралі... Патрэбны пэўныя тыпы музеяў. Музей саломкі, напрыклад. У нас такія брамы XVIII стагоддзя... Пярліны. Ні ў воднага народа няма такіх... А літоўцы зрабілі музей бурштыну... Хіба што нашыя літаратары паспелі стварыць свае музеі? Мастакі ж на сёння не маюць нават карціннай галерэі. Няма куды весці дачку-школьніцу, каб паказаць у м у з е і гісторыю Беларусі. Такога музея няма...

Ці тое ж — праз карціны. Бо калі гэта народ, дык яго станаўленне павінна быць адлюстравана ў мастацкай творчасці. Украінцы выдаюць альбом «Украінскае вяселле», а мы такога не выдалі — таму што мастакі не лічаць патрэбным такія з'явы фіксаваць...

— Можа, ім «не давалі» гэтага рабіць?

— Партыя сапраўды імкнулася ўсіх творчых людзей выраўняць у адзін рад. Распрацоўваліся адныя й тыя ж тэмы, «нацыянальнае» лічылася толькі формай... Але ўсё залежыць ад памкненняў асобы. Я — «палявік». У тыя часы формай творчага існавання для мяне была палявая работа /прафесіянальны выраз: азначае непасрэдны збор эмпірычнага навуковага матэрыялу, які яшчэ нідзе нікім не фіксаваўся, і ўвод яго ў навуковы ўжытак. — **Ю.З.**/. Я тады ўсведамляў сваю місію найперш як місію **збіральніка эмпірычнага матэрыялу** з этнаграфіі беларусаў, фіксуючы яго ў дзённіках, апісаннях, фотаздымках, картатэках; урэшце, збіраючы аўтэнтычныя рэчы. Магчыма, збіральніцтву было аддадзена зашмат увагі і высілкаў — нашмат больш, чым для сістэматызацыі і асэнсавання сабранага, — але я, прынамсі, ведаў, што **пасля** мяне застанецца і н ф а р м а ц ы я пра рэчы, зафіксаваная, не згубленая, застанецца памяць пра традыцыйную культуру /найперш, матэрыяльную/ — для далейшай апрацоўкі, асэнсавання тымі, хто прыйдзе пасля мяне...

* * *

*У крамных вітрынах павыстаўляны*
*рэчы — мо для сустрэчы, а можа, для*
*развітання.*

*Нібы ля сваіх дарагіх нябожчыкаў,*
*мы спыняемся каля іх, аглядаем іх,*
*убіраем іх у душу і ў памяць.*

*І адчуваем, хвалюючыся, што з імі*
*нас звязвае тайнае падабенства, бы не-*
*калі, напачатку, калі бог тварыў свет,*
*мы былі гэтаксама рэчамі і будзем не-*
*калі зноў.*

*Усё, чым багаты мы, — гэта рэчы,*
*і ўсё, перад чым мы аказваемся багамі, —*
*яны...*

**/Алесь Разанаў. «Рэчы-ІІ»./**

* * *

У майстэрні-музеі — спрэс аўтэнтычныя, сабраныя з усёй Беларусі рэчы — прадметы традыцыйнай культуры: ёсць і дзівосныя вырабы з саломкі, збаны і збанкі, драўляныя лялькі, скульптура, маляванкі. Апроч рэальных рэчаў, ёсць рэчы ідэальныя, рэчы-інфармацыя: фотазбор, негатывы, апісанні, картатэка па розных праявах традыцыйнай культуры ў Беларусі. Напрыклад, пахавальны абрад зафіксаваны толькі Міхасём Раманюком: афармленне магіл і дамавін /можа прачытаць цікаўным лекцыю «Арнамент дамавін»/, апусканне нябожчыка ў магілу, змесціва жаночага клуначка «на смерць» /а гэты звычай і па сёння вядзецца ў вёсках, і што ты можаш адчуваць, пачуўшы раз ад маці, што яна падрыхтавала ўжо **свой** «клуначак», і ён будзе ляжаць вунь там?../. Дарэчы, незмяняльны на працягу стагоддзяў пахавальны абрад адлюстроўвае, можна сказаць, саму сутнасць традыцыйнай культуры — унікальнай, непадлеглай модзе і тыражаванню культурнай традыцыі. За гэтыя яе якасці Міхась Раманюк і прыкіпеў да вёскі...

А пачыналася ўсё з 2-га курса Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута /факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, спецыяльнасць «мастак-мадэльер»!/. Тады, пры канцы 1960-х, Міхась з'ездзіў у адну з першых этнаграфічных экспедыцый на поўнач Гродзеншчыны. Хоць сказаць «экспедыцыя» было б, відаць, нацяжкай: проста вандроўка апантаных, захопленых ідэяй збору «наро-

*(Працяг на стар. 14 - 15)*

Віншуем!

# І ПЕРАКЛАДЧЫК, І ДАСЛЕДЧЫК

20 снежня сустракае сваё 70-годдзе ўкраінскі крытык і літаратуразнаўца, даследчык і перакладчык беларускай літаратуры Барыс Чайкоўскі. Два выданні /у 1964 і 1971 гадах/ вытрымала яго кніга «Незабыўная старонка дружбы. Т. Р. Шаўчэнка і беларуская літаратура». Неаднойчы пісаў Б. Чайкоўскі пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, К. Крапівы, І. Мележа, А. Васілевіч, З. Бандарынай і іншых пісьменнікаў.

Дзякуючы яму ўкраінскія чытачы змаглі прачытаць на сваёй роднай мове раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» /1955/, тэтралогію А. Васілевіч «Пачакай, затрымайся...» /1982/, раман Я. Маўра «Амок» /1958/, аповесць А. Кудраўца «Раданіца» /1985/, з лепшымі апавяданнямі К. Чорнага /зборнік «Маленькая жанчына», 1956/. Акрамя таго, Б. Чайкоўскі пераўвасобіў па-ўкраінску апавяданні М. Воранава, М. Гіля, У. Дамашэвіча, А. Дударава, А. Жука, М. Стральцова...

Прапагандуе ён і творы для дзяцей. У прыватнасці, пераклаў зборнік беларускіх народных казак у апрацоўцы А. Якімовіча «Людзей слухай, а сам розум май» /1964/.

Віншуем Барыса Іосіфавіча з юбілеем, жадаем яму доўгіх год жыцця, плёну на ніве творчага пабрацімства!

Літкур'ер

# «НЕ ПАКІДАЙ НАС, ВЕРА...»

Колькі добрых, шчырых, тужлівых слоў мы знойдзем у кнізе «Не пакідай нас, Вера...» Кніга ўспамінаў, артыкулаў, вершаў выйшла ў гэтым годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» і прысвечана Веры Сямёнаўне Палтаран. Гэтая цудоўная жанчына, разумны, смелы крытык, цікавы празаік пакінула глыбокі след у сэрцах людзей, якія ведалі яе.

У кнізе мы знойдзем успаміны блізкіх сяброўак /М. Барсток/, таварышаў па працы /А. Сямёнавай, Н. Давыдзенкі/, пісьменнікаў /Я. Брыля, М. Аўрамчыка/, прачытаем вершы, прысвечаныя Веры Палтаран. Трыццаць адзін аўтар прыняў удзел у стварэнні гэтай кнігі.

**Л. БЯЛОВА**

# АДДАНАЯ БЕЛАРУСІ

90-годдзе выдатнай паэткі Наталлі Арсенневай восенню было адзначана па лініі беларускага прадстаўніцтва ў ЗША, а нядаўна абдыўся юбілейны вечар у Доме літаратара. Пра Арсенневу — паэтку і вялікую грамадзянку Беларусі, пра яе драматычны лёс гаварылі міністр замежных спраў П. Краўчанка і старшыня згуртавання «Бацькаўшчына» Г. Сурмач, пісьменнікі Б. Сачанка, У. Наумовіч, Л. Пранчак, унучка Якуба Коласа М. Міцкевіч і Р. Грышкевіч-Аляхновіч. Многія з удзельнікаў імпрэзы сустракаліся з юбіляркай, перапісваюцца з ёй.

Гучалі вершы з кнігі выбранага «Між берагамі» і песні на вершы Н. Арсенневай. На заканчэнне вядучы А. Лойка даў слова хору праваслаўнага Брацтва трох віленскіх пакутнікаў, які выканаў славутую «Малітву» /«Магутны Божа»/. Прычым зала слухала стоячы — як і належыць пры выкананні гімна.

**Г. З.**

# СУСТРЭЧЫ «ПЕРШАЦВЕТА»

Ужо нямала творчых літаратурных сустрэч са сваімі чытачамі на рахунку часопіса маладых літаратараў Беларусі «Першацвет» і яго аўтараў — маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў. Выступалі першацветаўцы перад школьнікамі, гімназістамі, ліцэістамі, чытачамі бібліятэк...

Нядаўняя сустрэча, што адбылася ў сталічным Доме афіцэраў, была адметная. Супрацоўнікі рэдакцыі часопіса выступілі перад загадчыкамі гарнізонных бібліятэк. Гаворка вялася пра ролю літаратуры і мастацтва ў нацыянальна-патрыятычным выхаванні беларускіх вайскоўцаў, найперш маладых салдат, пра неабходнасць хутчэйшага пераходу нашага войска на беларускую мову.

Пра выданне часопіса, яго здабыткі і праблемы расказаў прысутным намеснік галоўнага рэдактара Алесь Пашкевіч. Аддзелы паэзіі і прозы прадставілі іх рэдактары Мікола Віч, Людміла Шчэрба, Алесь Давыдаў, Эдуард Акулін.

**А. Д.**

Уражанне

# БЕЛЫЯ БУСЛЫ, ЧОРНЫЯ АНЁЛЫ

Ніякай патэтыкі гучных абвінавачванняў. Ніякага пафасу выкрывання. Ніякай гэтай «публіцыстыкі» і «філасофіі» па сацыяльным заказе. Адно будзённая гаворка жанчын, мужчын, старых і маладых.

Гэта палешукі. Людзі, якія нарадзіліся на сваёй зямлі, а апынуліся ў зоне. Пакуль яшчэ жывуць. Пакуль яшчэ тут, разам з намі... Ды што тлумачыць — самі слухайце іх галасы.

Пра дзяцей, пра грыбы:

— Можа здарыцца, што маім унукам не наканавана ўбачыць сваіх дзяцей. Распаўзаецца атрута. Ужо і пад самым Мінскам, кажуць, няможна збіраць грыбы.

Пра тэлевізійную вежу:

— Вежу тую паставілі, але такую, каб мы не бачылі вярхоўную сесію. Вядома, цёмных людзей лягчэй трымаць у аброці.

Пра бэры:

— Ты, відаць, баба Клава, тры гады з печы не злазіла. Бэры — значыцца Берыя.

Такі пачатак гэтай кнігі.

А потым — усё бліжэй і бліжэй тое жыццё, пра якое з пераканаўчай прастатою расказвае Алесь Крыга ў вядомай дакументальнай аповесці «Выбух над Прыпяццю». Так — ужо вядомай, гэта можна сцвярджаць з усімі падставамі, таму што водгукі аб ёй чуваць як сярод літаратараў і чытачоў нашай рэспублікі, так і па-за яе межамі, напрыклад, у Кіеве і ў Маскве /з зацікаўленасцю пісалі пра аповесць у часопісе «Молодая гвардия»/.

*Алесь Крыга. Выбух над Прыпяццю. Дакументальная аповесць. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1992.*

Нічога нечаканага няма ў гэтай пісьменніцкай і чытацкай цікавасці: усе добра ведаюць, каго ў першую чаргу даткнулася катастрофа Чарнобыля.

Нічога нечаканага і ў тым галоўным уражанні, якое выклікае аповесць А.Крыгі, — у яе, паўтару, пераканаўчай прастаце. Бо ў літаратуры, як і ў жыцці, шчырасць заўсёды простая — і заўсёды пераконвае.

Між іншым, калі глядзець з боку прафесійна-літаратурнага, дык у кнізе гэтай можна пабачыць яшчэ адзін карысны і пачаткоўцам, і сталым урок на «тэму» аўтарскай арыгінальнасці: жадаеш быць цікавым для іншых — будзь перш за ўсё самім сабою. А гэта, магчыма, і ёсць самае цяжкае для пісьменніка —стацца сабою. Бо гэта азначае — вызваліцца, скінуць з сябе цяжар самалюбных мэт, разлікаў на выйгрышны змест ці на нейкую там асабліва арыгінальную форму. Гэта азначае — увайсці ў жыццё, пра якое потым будзеш пісаць, нават не думаючы пра будучы вынік, не тое, што пра абавязковы поспех, — забыцца наогул пра «арыгінальнасць». Бо калі ты на самай справе ёсць, а не робіш такі выгляд, не здаешся, — дык нікога і не паўторыш, не скапіруеш, не бойся за гэта.

Адно з самых моцных уражанняў ад чытання аповесці — эфект нашай асабістай прысутнасці ў расказаным. Пра неабходнасць яго час ад часу пачынаюць ужо забываць аўтары дакументальных нарысаў, а мо грэбуюць ім. «Выбух над Прыпяццю» — кніга пра ўсё яшчэ чалавечае жыццё сярод ужо нечалавечых умоў зоны. Яно літаральна абступае чытача ў сваіх самых будзённых, паўсядзённых праявах. У тварах людзей, у іх галасах, у дробязях іхняга побыту. І ў тых нязмушаных шчырых споведзях аўтару, якія складаюць, бадай, самы каштоўны матэрыял аповесці А.Крыгі.

У кожным такім выпадку, піша ён, «быццам атрымліваеш крэдыт даверу». Тым больш важным з'яўляецца для аўтара разуменне, « што галоўная твая задача не карыстацца ім звыш меры, хай нават сабе і на карысць няшчасных людзей».

Ёсць у кнізе споведзі кароткія, ёсць доўгія. Няцяжка здагадацца пра складанасць задачы: што выбраць з агромністага матэрыялу пры чарговым павароце драматычнага «сюжэта»? Аднак выбар кожны раз, здаецца, рабіўся аптымальны, бо хочацца цытаваць то адно, то другое — беспамылковае сведчанне значнасці сабраных у аповесці фактаў, іх выразнасці.

Вось месца, выбранае аўтарам расказанага яму Алесем Кірылавічам Лапіцкім, «бежанцам» з вёскі Мікулічы:

— Ведаеш, братка, кінулі нас, адвярнуліся ад убогіх... І прачнуліся мы і ўбачылі: Беларусь не маці нам — мачаха...

Вы толькі ўслухайцеся — і ў самі гэтыя словы, і ў інтанацыю: «і прачнуліся... і ўбачылі». Гэта ж сапраўдная біблейская мелодыка і танальнасць, той самы праказветны гаротны паўтор злучніка «і». І тая ж самая біблейская стылістыка: «адвярнуліся ад убогіх». І нарэшце такая ж, тыпова біблейская важкасць і сціслая вобразнасць пакутлівай, узваленай на ўласныя слабыя плечы ісціны: «не маці нам — мачаха».

Трэба быць сапраўдным пісьменнікам, каб вылучыць такое з мора пачутага на зямлі народнай бяды і захаваць усю трагічную паэзію — і паэтыку — тых слоў.

«Беларусь — не маці», — гэта ўжо нарабілі не чацвёрты блок, не цэзій, не

Сярод кніг

# АЛЬТЭРНАТЫВА АКАДЭМІЧНАЙ СЕРЫІ?

***З цікавасцю прачытаў у адным з вераснёўскіх нумароў «Літаратуры і мастацтва» рэцэнзію-агляд серыі «Нашы славутыя землякі», якая выходзіць у выдавецтве «Навука і тэхніка». Аўтар публікацыі Алесь Краўцэвіч зрабіў добрую справу, аддаўшы сціплую даніну пашаны як арганізатарам, так і аўтарам біяграфічнай серыі.***

Праўда, па-за межамі гаворкі засталіся кнігі выдавецтва «Полымя», якое гэтаксама апякуецца «Нашымі славутымі землякамі», і дзе выйшла, пачынаючы з 1989 года, пяць біяграфічных нарысаў, а дакладней — «Эдуард Пякарскі» В.Грыцкевіча, «З душой славяніна» /пра З.Даленгу-Хадакоўскага/ А.Аксамітава і Л.Малаш, «Асілак Якуба» /пра беларускага атлета Якуба Чэхаўскога/ М.Мядзведзева і Д.Чэхаўскога, «Уладзіслаў Борзабагаты» Ф.Ігнатовіча, «Летапісец Віцебшчыны» /пра А.Сапунова/ А.Падліпскага. Дарэчы, на ўсіх кнігах ёсць пазнака: «Серыя заснавана ў 1988 годзе». Выходзіць, што равесніца акадэмічнай?.. Але ж пакуль наўрад ці трэба складаць біяграфію серыі. Час той яшчэ наперадзе. Мажліва, з гадамі пабольшае атрад «Нашых славутых землякоў» — іншай тады будзе і размова, больш строгім аналіз.

Цяпер жа — толькі некаторы сціплы агляд зробленага. За гэтым разам — зробленага выдавецтвам «Полымя». У адрозненне ад акадэмічнай серыі біяграфічныя нарысы, выдадзеныя пад яго «шыльдай», як і самі, зразумела, аўтары знаходзяцца ў больш выгодным становішчы. Па-першае, няма ўціску «акадэмічнага» памеру. І калі «Эдуард Пякарскі» В.Грыцкевіча «ўмясціўся» ў чатыры з невялікім друкаваныя аркушы, то «Асілак Якуба» - амаль у два разы «таўсцейшы». «Палымянаўская» серыя і больш шырэйшая ў выбары герояў. А можа, больш прыземленая?.. Героямі кніг сталі вучоны, этнограф, спартсмен, урач, рэвалюцыянер. І зноў жа — рэвалюцыянер і вучоны-філолаг у адначассе, а яшчэ гісторык, краязнаўца. «Навука і тэхніка» ж пачала ўзводзіць пантэон большасцю сваёй сапраўды нацыянальных герояў. Ды толькі, відаць, тут варта нагадаць адну ісціну, што біяграфіі як жыццеапісання варты кожны чалавек. Тым больш той, хто пакінуў аб сабе хоць нейкі добры след у памяці людзей. Вось гэтая ў прынцыпе «незнаменитость» і вылучае герояў «палымянаўскай» серыі, робіць іх лёсы прыцягальнымі для самага шырокага кола чытачоў. Заўважым, што біяграфічныя нарысы краязнаўчага выдавецтва таксама не залежваюцца на паліцах кнігарань. Праўда, розны тыраж ці не ў кожнага з выданняў. Калі першая кніжка /«Эдуард Пякарскі»/ выйшла накладам у 14000 паасобнікаў, то «З душой славяніна» — толькі 2300. «Асілак Якуба» — 2700... Нягледзячы на ўсе акалічнасці часу, крышачку выраўняліся наклады сёлетніх выданняў: і «Уладзіслаў Борзабагаты», і «Летапісец Віцебшчыны» — па 5000...

Аўтары палымянаўскай серыі, як і яе нарысы, безумоўна, розняцца па сваім падыходзе да асвятлення тае ці іншае біяграфіі. І гэта ўвогуле зразумела. Менавіта на гэтую рознасць уплывае шэраг акалічнасцей. І ўзровень аўтара, і нават яго грамадская пазіцыя, і ступень валодання матэрыялам, і характар усведамлення біёграфам шматграннасці асобы, выбранай у герої свайго расповяду. Пра апошнюю рысу, надзвычай, на мой погляд, важную, хацелася б пагаварыць асобна.

Абавязак біёграфа можна вызначыць вось з гэтай шмат гадоў назад выкладзенай «формулы»: прытрымлівацца лаканічнасці, не апускаць нічога, што значна, і апускаць усё лішняе, ды і — прытрымлівацца духу свабоднага даследавання. У выдадзенай у 1918 годзе кнізе «Славутыя віктарыянцы» Джайлс Літан Стрэйчы напісаў: «Не справа біёграфа быць кампліментаршчыкам, яго справа — падаваць голы факт і складваць факты /згодна таму, як ён разумее іх сувязь».

Гэтым шляхам як быццам пайшоў і А.Падліпскі, распавядаючы пра А.Сапунова. Унікальнасць абранай даследчыкам асобы — у той тытанічнай пошукавай і гістарычна-папулярызатарскай справе, якую адолеў ён за сваё жыццё. Кнігі Сапунова — і сёння арыгінальныя матэрыялы для вывучэння гісторыі Беларусі. Але ж толькі, населеная мноствам адметных, цікавых фактаў, кніга А.Падліпскага не падае тлумачэнне /аргументаванае, з жыццёвымі прыкладамі/ кансерватыўна-палітычнаму характару дзейнасці Сапунова ў Дзяржаўнай думе.Безумоўна, было б прымітыўным вінаваціць Аляксея Парфёнавіча ў прыналежнасці яго поглядаў, сімпатый да акцябрыстаў, у тым,

бэры ці кюры. Гэтага дамагліся, гэта зрабілі ў свядомасці чалавека людзі незлічоных камісій. Яны «ў нас не ходзяць — лётаюць», — сказаў аўтару адзін палескі шафёр, — «анёлы ў чорным». А зямля тая прывыкла, што на яе прылятаюць белыя буслы...

Колькі дакладных, глыбокіх думак, колькі трапных слоў і выразаў, багатых горкім сэнсам, ужываюць палешукі ў аповесці! Сапраўды — мова памірае апошняй. Нават і на зямлі, ператворанай у зону. Але там, у камфортнай далечыні ад выбуху, мала што застаецца ад жывой мовы. Нават і без уздзеяння разбуральнага атама. Адно толькі заўсёднае: «Ніякай панікі!.. Мы кантралюем...» і г.д.

Што ж тычыцца згаданай вышэй трагічнай паэзіі, якая нярэдка гучыць у галасах палешукоў і якую так дбайна захаваў і здолеў перадаць нам у сваіх прыпяцкіх дзённіках А.Крыга, дык тут, зноў-такі з боку прафесійна-літаратурнага, яшчэ адзін карысны напамін. І менавіта пра тое, што калі пачынаецца сур'ёзная літаратура, дык неяк самі па сабе канчаюцца розныя мудрагелістыя тэарэтычныя размеркаванні яе па жанрах высокіх ці нізкіх.

Гэта, да прыкладу, добра ведаў яшчэ Тургенеў: «Вы сцвярджаеце, што ў публіцыста і паэта задачы розныя... Не!.. Толькі публіцыст глядзіць на іх вачамі публіцыста, а паэт — вачамі паэта». Галоўнае ж, лічыў ён, гэта людзі і тое, што Шэкспір заве: «сам вобраз і ціск часу».

Пакінем у спакоі цені вялікіх і вернемся да беларускай кнігі пра Палессе пад чарнобыльскай бядою. Але не забудземся на тыя іх даўнія словы пра час. Так, ягоны «вобраз і ціск» адчуваецца ў кнізе. У тых людзях, з якімі мы знаёмімся. У тых фантомах, «чорных анёлах», якія зніжаліся да гэтых людзей са сваіх вышынь і хутка знікалі. І ў тых дакументах, што сведчаць пра ціск таго нядаўняга і сённяшняга нашага часу; засакрэчваннях і эвакуацыях, адсяленнях-перасяленнях і дармавых «грабавых».

У некаторых нашых рускамоўных газетах, напаўжаргонных, што выяўляе ўсю жабрацкую, каляпартыйна-блатнаватую «культуру» іх аўтараў, — у гэтых сродках нярэдка ўжо масавай дэзінфармацыі можна смела гаварыць пра што хочацца. Але ўспамінаць пра «ўклад» камуністычных ЦК, маскоўскага і мінскага, у справу замоўчвання Чарнобыля як злачынства супраць народа — неяк непажадана.

Затое А.Крыга ў сваёй аповесці гаворыць пра тую справу,што называецца, адкрытым тэкстам. З прозвішчамі і імёнамі, з лічбамі і датамі.

Па сутнасці, гэта гаворка аб тым, што такое канец свету для людзей, якія не могуць, як раней, жыць на сваёй зямлі і як мае быць — на іншай, новай «Новай зямлі» для іх няма.

Апошнім часам мы ў нашай публіцыстыцы трохі зацягалі слова Апакаліпсіс. Разумеем пад ім нешта выбухова-раптоўнае, адначаснае. А ён, можа, ідзе ўжо даўно, з дня ў дзень — нябачна, нібы апраменьванне.

Нібыта болей і не палыхае вогнішча. Не бачна конніка на вогненным кані. Затое ў кнізе А.Крыгі можна пабачыць, як час раптам спыняецца і з дваццатага стагоддзя, з Беларусі вяртаецца некуды на стагоддзі назад. Сённяшнія вясковыя беларусы ідуць з авоськамі да магазіна, што ля калгаснага праўлення. Тут гэтыя людзі будуць стаяць і чакаць не хлеба, не цукру, а «пана купца», які прыедзе наймаць іх на працу — і жыллё — у іншым раёне, не так атручаным радыяцыяй.

Гэта — нявольніцкі рынак Палесся XX стагоддзя. «Амаль дзіцячая сарамлівасць беларусаў, імкненне і ў бядзе схаваць ад чужых вачэй сваю пакуту палохае яшчэ больш, чым сам то маўклівы, то гаваркі натоўп...»

Хіба патрэбна штосьці дадаваць да гэтага?

Астатняе — у кнізе.

**Аляксандр СТАНЮТА**

---

што ён з'яўляўся перакананым манархістам. Але ж якраз паміж гэтай пазіцыяй А.Сапунова і яго захапленнем, самаахвярным служэннем гісторыі ўсё ж такі Беларусі аўтар мог угледзець унутраную барацьбу ў асобе аднаго чалавека, прасачыць перажыванні, а магчыма, і сумненні Сапунова. Тым самым расповяд мог бы набыць асаблівы драматызм, а следам і сапраўды шырокую чытацкую цікавасць. Ды і ў поглядах Сапунова, у надрукаваных яго выказваннях ёсць падставы вybудаваць захапляючыя мастацка-драматычныя калізіі. І дарэмна А.Падліпскі імкнецца тое-сёе прычасаць, прыгладзіць сваім каментарыем. Як вось, да прыкладу, у гэтым месцы: «Адказваючы аднаму са сваіх апанентаў, Сапуноў падкрэсліў, што «беларускае племя» — гэта не толькі беларусы-праваслаўныя, але і беларусы-каталікі. «Дробная шляхта і сяляне-каталікі ў хатнім побыце размаўляюць звычайна па-беларуску і амаль нічым не адрозніваюцца ад сваіх сабратоў-праваслаўных беларусаў. Адносіць да палякаў іншых беларусаў толькі таму, што яны каталікі, гэта ўжо не што іншае, як, з дазволу сказаць, этнаграфічны грабеж». А.Сапуноў двойчы падкрэсліў: «Мы не ворагі палякаў». І ўсё ж у многіх сваіх працах ён празмерна захапляўся крытыкай паланізму, менавіта ў паляках і яўрэях бачыў усе беды простага люду, і тым самым, няхай сабе несвядома, аднак унёс і сваю лепту ў распальванне нацыянальнай розні і рэлігійнай барацьбы паміж праваслаўем і каталіцызмам.

Безумоўна, у некаторым плане нарысы палымянскай серыі саступаюць грунтоўнасці кніжак з аднайменнага цыкла выдавецтва «Навука і тэхніка». Але гледзячы якую кнігу і з чым параўноўваць. Калі, напрыклад, угледзецца, учытацца ў старонкі нарыса В.Грыцкевіча «Эдуард Пякарскі» /выдавецтва «Полымя»/, то наўрад ці чым кніга адрозніваецца ад сваіх акадэмічных «паплечніц». А аўтар «Эдуарда Пякарскага» — ён жа аўтар нарыса пра падарожніцу і лекарку Саламею Русецкую, выдадзенага «Навукай і тэхнікай». Праўда, і тут, відаць, след узгадаць тую ж загану — памкненне аўтара да ідэалізацыі. Пякарскі — постаць надзвычай прывабная для ўсялякага даследчыка. Як, між іншым, і для ўсялякага часу. Пякарскі — рэвалюцыянер, сасланы царскімі ўладамі ў 1881 годзе ў далёкую Якуцію. У ссылцы наш зямляк стварыў слоўнік якуцкай мовы, выдаў тры тамы «Узораў народнай літаратуры якутаў». Гэта Пякарскі адзін з заснавальнікаў якуцкай літаратуры. А.Е.Кулакоўскі пісаў: «У нас не было літаратуры, а ваш слоўнік павінен паслужыць падмуркам для яе стварэння... Вы сапраўды заслугоўваеце імя бацькі якуцкай літаратуры. Без вас не знайшлося б асобы, у якой хапіла б дзёрзкасці прыняць на сябе такую каласальную працу, як ваш слоўнік». Як быццам усё правільна, але ж той жа Кулакоўскі меў і другую грань адносін з Пякарскім. Пакінуўшы гэта па-за межамі кнігі, аўтар дае падставы для сумненняў у праўдзівасці гладкаапісання біяграфіі.

Можна надалей шукаць і знаходзіць пралікі ў зробленым аўтарамі палымянаўскіх кніжак пра славутых землякоў. Збоку, як кажуць, яно заўсёды відней. Але ж падобна і аўтарам нарысаў, выдадзеных «Навукай і тэхнікай», даследчыкамі лёсаў Э.Пякарскага, У.Барзабагатага, Я.Чахаўскога, З.Даленгі-Хадакоўскага, А.Сапунова прарабілі агромністую працу, здолелі папулярна, займальна выкласці перад чытачом славутыя лёсы, прыклады служэння Бацькаўшчыне.

Ёсць у біяграфічных нарысах выдавецтва «Полымя» і такая прывабная асаблівасць, адмеціна: большасць з выдадзеных кніг завяршаецца бібліяграфіяй, а таксама — каментарыямі. Гэта дазваляе пры жаданні прадоўжыць знаёмства з той ці іншай постаццю.

Як і акадэмічная серыя, палымянаўскія нарысы — толькі першы камень у падмурак нараджэння, стварэння беларускай дакументальнай біяграфіі. Таго ўзроўню, таго абсягу, што не сорамна будзе і з маскоўскай «Жизнью замечательных людей» параўнаць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

# ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ БАНДАРЭНКІ

***Ваўкавыскага паэта Сяргея Бандарэнку я ведаў завочна. Яго простыя, без лішніх слоў, але не прымітыўныя вершы мне падабаліся. Іх прыемна было бачыць на старонках цалкам рускамоўнай раённай газеты «Знамя Октября», якая пазней перайменавалася ў «Наш час» і пачала змяшчаць матэрыялы і на беларускай мове.***

***Заўжды, калі трапляла мне ў рукі гэтая газета, у першую чаргу шукаў вершы Сяргея Аляксандравіча.***

***Не так даўно ў «Нашым часе» з нагоды 75-годдзя паэта былі змешчаны фотаздымак і падборка ягоных вершаў. Вершы ўражвалі шчырасцю, выпакутаванасцю поглядаў сталага чалавека на сённяшнюю сітуацыю.***

***А тыдні праз два тая ж раёнка прынесла сумную вестку: адышоў з жыцця Сяргей Аляксандравіч Бандарэнка. Вельмі шкада. Напэўна, паэт адчуваў, што жыць яму засталося нядоўга, пра гэта сведчыць адзін з апошніх вершаў.***

***У некралогу сказана: «Яго юнацтва было апалена вайной. Франтавыя дарогі, фашысцкі палон, гібель трох братоў, а потым доўгія гады недаверу болем напаўнялі яго жыццё. Усе пасляваенныя гады аддадзены любімай працы — будучым педагогам, паэтычнай творчасці, сям'і».***

***Думаецца, у яго было многа сяброў. Пажадана, каб яны паклапаціліся і сабралі лепшыя творы паэта, пры магчымасці выдалі зборнік яго паэзіі.***

***Анатоль ІВЕРС***

Сяргей БАНДАРЭНКА

## ПАКАЯННЕ

**Я з маленства цягнуўся да лірыкі,**
**Думаў, буду цікавы паэт.**
**Загубілі мяне панегірыкі,**
**Парадзілі ў душы пустацвет.**
**Заглушылі чужыя мелодыі**
**Струны чулыя сэрца майго:**
**Пеў пра ўсё я, што варта пародыі,**
**Славіў тое, не бачыў чаго.**
**Услаўляў я тырана вусатага,**
**Каб жыццё не паставіць на кон:**
**Я ж меў долю прадажніка клятага**
**За адно, што папаў у палон.**
**Не стрымалі мы ворага злейшага.**
**Нас разбілі, скрывавілі стэп.**
**Хто ж павінны ў бядзе сорак першага?**
**Сёння знаем: Вярхоўны Язэп...**
**Для каго ж я складаў панегірыкі,**
**Гучна славіў жыцця веснаход,**
**Калі гіблі ад беднасці лірыкі**
**І стагнаў ад рэпрэсій народ?!**
**Накладу на сябе эпіцімію,**
**Сталінізм назаўжды пракляну,**
**Можа, змыецца грэх прад Радзімаю**
**За маю ракавую віну.**

## СІВІЗНА

**Сыпле дождж на травы, на сцяжынкі.**
**Я пад ім без шапкі пастаю.**
**Можа, змыюць цёплыя дажджынкі**
**Сівізну завейную маю.**

**Можа, зноўку я шатэнам стану,**
**Як даўно, у юныя гады.**
**Можа, выйду з песняй на паляну,**
**Радасны, прыгожы, малады.**

**Толькі — не. Няма назад звароту,**
**І не змыць дажджынкам сівізны,**
**Бо яна — сляды маіх турботаў,**
**Спадчына суровае вайны...**

**Хай імчацца дні, як эшалоны,**
**Не кляну я свой нялёгкі лёс.**
**Пранясу з пашанай аж да скону**
**Шчырасць дум і белы снег валос.**

**У мяне цяпер адно жаданне,**
**І трывога ціхая адна:**
**Не кранула б да майго змяркання**
**Мне душу, як шэрань, сівізна.**

## БЯЖЫЦЬ К КАНЦУ МАЯ ДАРОГА

**Жыццё прайшло, як з воза ўпала,**
**Пусты вазок у змрок ляціць.**
**Дарма цыганка мне гадала**
**Багата жыць і знатным быць.**

**Яе гаданне не збылося,**
**Мае не спраўдзіліся сны,**
**Бо ў сэрцы гора запяклося**
**Крывавай ранаю вайны.**

**Я быў над Бугам паланёны,**
**Спазнаў пакут усе кругі**
**І «бацькам» Сталіным кляймёны,**
**Як здраднік подлы і ліхі.**

**І не было ў жыцці мне ходу**
**У дні рэпрэсій, гвалту, звяг,**
**Хаця сумленна жыў я з роду,**
**Бярог бацькоў святы ачаг.**

**Не быў я падкі да спакусаў,**
**Любіў у росах сенажаць.**
**Вучыў я дзетак беларусаў**
**Свой край і мову шанаваць.**

**Пакінь маю душу, трывога,**
**Што сёння мой пусты вазок.**
**Бяжыць к канцу мая дарога**
**За крокам крок, за крокам крок...**

---

## Наш каляндар

9 снежня — 130 гадоў з дня нараджэння рускага паэта, аднаго з першых перакладчыкаў Я. Купалы, складальніка і рэдактара першага зборніка Я. Купалы па-руску «Выбраныя вершы ў перакладах рускіх паэтаў», што выйшаў у 1919 годзе — Івана БЕЛАВУСАВА /1863—1930/.

●

17 снежня — 110 гадоў з дня нараджэння Яўгена БАРЫЧЭЎСКАГА /1883—1934/, беларускага крытыка і літаратуразнаўцы. У 1927 годзе выдаў працы «Тэорыя санета» і «Паэтыка літаратурных жанраў». Друкаваўся ў «Працах Беларускага дзяржаўнага універсітэта», часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Полымя».

●

17 снежня — 95 гадоў з дня нараджэння празаіка Мікалая АЛЯКСЕЕВА /1898—1985/. Пісаў па-руску. Аўтар раманаў «Якаў Жалязноў», «Выпрабаванне», «Па закліку сэрца» і іншых твораў. Напісаў п'есу «Сястра Варвара» /пастаўлена ў 1960 годзе/.

●

19 снежня — 90 гадоў з дня нараджэння Тамары ЦУЛУКІДЗЕ /1903—1991/. Літаратурную працу пачала з рэцэнзій і артыкулаў пра тэатр у 1933 годзе. Напісала шэраг кніг пра тэатр, у 1973 годзе выдала зборнік аднаактовых п'ес «Тваё чэснае слова». Перакладала з грузінскай мовы.

●

24 снежня — 195 гадоў з дня нараджэння Адама МІЦКЕВІЧА /1798—1855/.

●

24 снежня — 80 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Аляксея КУЛАКОЎСКАГА /1913—1986/. У 1970—1971 гадах выходзіў Збор твораў у чатырох тамах. Зрабіў літаратурны запіс кнігі В. Казлова «Людзі асобага складу», якая вытрымала некалькі выданняў. Аповесць «Дабрасельцы» была ўспрынята як паклёп на савецкую рэчаіснасць і пасля публікацыі ў часопісе «Маладосць» асобнай кнігай выйшла толькі ў беларускім замежжы.

Паэзія

Васіль СУПРУН



## МАЯ МАЛІТВА

Дай жа сілы мне, Божа,
каб змог устаяць
Супраць здзекаў, маны і прымусу,
І каб слова, старанне і праца мая
Сталі плёнам святой Беларусі!

Умацуй маю веру, малітвы мае,
Падкажы праз цярпенне дарогу
Да дабра, ўсёабдымнай любові Твае
І да роднай хаціны парога.

Сумна-цяжкаю выпала ноша мая
Па нявольных крывых пуцявінах
У чужых згубна лютых
паўночных краях,
Між магілак ахвяраў нявінных.

Умацуй мае сілы і веру маю,
Божа мілы, заступнік адзіны!
І надзеі, і лёс свой Табе аддаю.
Жыць хачу толькі доляй Айчыны.

*Інта, Комі, 1951 г.*

## О, ДЗІЎНЫ КРАЙ!

О, дзіўны край маіх дзядоў,
Гасцінцаў край і сцежак вузкіх!
Край сэрцаў шчырых,
край садоў,
Пяшчотны край мой беларускі!

Скажы:
за што стакволя год
Суседзяў орды беспрычынна
Дратуюць дзіка твой народ?
За што так нас глуміць павінны?

## НА РУІНАХ ХРАМА

Прайшлі стагоддзі па мурох гэтых.
Мяняўся вецер,
што хмары нёс.
А вера продкаў з лета ў лета
жыла.
Духоўна народ наш рос.

Цяпер — руіны
на месцы храмаў.
А ў душах немых —
пустэча, лёд.
Сказаць патрэбна
адкрыта, прама:
пакуль ёсць Вера,
жыве народ.

## БРАТЫ!

Шаноўныя!
Звяртаюся да Вас з пытаннем:
Няўжо да скону
будзем валачыць
Ярмо чужое,
І з кален не ўстанем?
Няўжо і сёння
сэрца прамаўчыць?

## ДУБЫ

Векавыя дубы — сведкі долі народа —
Мяне вабяць сваёй таямніцай быцця.
У магутнасці іх бачу сімвал свабоды,
Сілу часу, загадкавы почырк жыцця.

Непакорна, вось так,
супраць буры і слоты
І народ наш вякамі стаяў і стаіць;
Хоць ламалі яго, катавалі за дротам,
Спрабавалі згнаіць, асляпіць і паліць.

І жывуць у вяках Беларусі плямёны
Пад аховай нябёс, як асілкі дубы,
Не зламаны чумой векавога палону,
Не зламаны, жывуць!
І даў Бог — не рабы!

*г. Слонім.*

Проза

Алесь ДЗЯТЛАЎ



# НА НАЧНОЙ ДАРОЗЕ

## АПАВЯДАННЕ

Ужо прыцемлівалася, паціху, быццам нехаця, усчынаўся дробненькі дожджык-недасей, лянівы і не спорны, так сабе, вадзяны пылок. Дарога раскоўзаная, з глыбокімі калюжынамі ад калёс, у нізкіх мясцінах стаяць глеістыя каламутныя лужыны. Конік ледзь грэбся, прытомлены цяжкай дарогай, і таму Мікулец асабліва не падганяў яго, шкадуючы скаціну, толькі перад шырокай калюжынай лянівa шморгаў лейцамі, прыцмокваў языком, каб, барані божа, не засесці пасярод дарогі па самыя восі. І конік, быццам чуючы спагаду вазака да сябе, упінаўся з усіх сіл, гразь чвякала пад капытамі, і калёсы як не да восей плылі ў брудным месіве, але ж выграбаліся на сушэйшае месца. Тады Мікулец адпускаў лейцы, і конік паціху трухаў сам.

Мікулец раніцай, яшчэ поцемкамі, выправіўся ў горад. Меўся ў наступным годзе ставіць новы зруб, бо бацькава хацінка стала ўжо трухляшчам. Загадзя, не спяшаючыся, за восень і зіму меркаваў здабыць цвікоў, а калі патрапіць, то і шкла, ды яшчэ сяго-таго, што спатрэбіцца ў будаўніцтве. Ды грошай тых — кот наплакаў, лічы, зусім няма. У калгасе ставяць «палачкі», што на іх атрымаеш? Праўда, дзякуй старшыні Леўчыку, пашкадаваў Мікульца, прыставіў інваліда да фермы ўчотчыкам, каня замацаваў, то хоць якога бурака можна ўпотай дахаты прытарабаніць ці саломы абярэмак. Сам Леўчык без нагі, з вайны такім вярнуўся, то і паспачуваў франтавіку: хоць нага і засталася, але перабіла яе асколкам.

Конік барджэй патрухаў уніз з грудка, а Мікулец выцягнуў капшук, няспешна, захінуўшыся каўняром ад дождждыка, скруціў самакрутку, прыпаліў і з асалодай зацягнуўся дымам.

Яшчэ якой паўгадзіны, і ён будзе дома. Думкі няспешна вязаліся ў галаве, пераскоквалі з аднае жыццёвае падзеі на другую. Здаецца, гандлянуў без прамашкі: пуд сала на базары прадаў, у знаёмага гарадскога яўрэя пяць кілаграмаў цвікоў выпрасіў. Праўда, не тыя, што трэба, сямідзесяткі, лацвей было б васьмідзесяткі ці соткі, але сыдуць і такія. На падлогу акурат хопіць. Не ўцярпеў, прыцаніўся на базары да сякеры: задужа ж ёмкай здалася ў руцэ, дзяржак бярозавы, у руку не будзе біць як дубовы, выгнуты, акурат каб лацвей да работы было. Сякера, відно, шчэ даваенная, загартаваная, а дзяржак новы. Купіў, хоць шкада было расставацца з грашыма, ды і дома дзве сякеры ад бацькі-нябожчыка засталіся. Працягнуў руку за спіну, намацаў пад сенам гладкае, халоднае лязо і задаволена ўсміхнуўся. Такой сякерай і бёрны лацвей часаць, і пазы высякаць, а кару сама зніме, толькі даткніся. «Зруб пастаўлю, — думаў Мікулец, — а там і жанюся. Стахвеніну Веру вазьму, пойдзе, куды яна дзенецца. Мужыкоў у вёсцы не асталося, мо шчэ прыйдуць, хто па гаспіталёх валяецца, а я во, тут. Нага толькі скалечана, але ж рукі цэлыя ды галава на плячах. Стахвен стары куркуль, шчэ чырвонцы залатыя, мікалаеўскія, відно, у схове трымае. «Падзеліцца, дзе ён дзенецца, — рашуча думаў Мікулец. — Верка не тавар, стараватая, таргавацца не будзе задужа».

Мікулец раптам успомніў той бой, у студзені, калі на іх батарэю 76-міліметровак пайшлі нямецкія танкі. Здавалася, што фашыстаў загналі ў кут, да Венгрыі дайшлі, але ж не. Ударыў нечакана, раніцай, з туману наваліўся. А снарадаў на гармату — па два-тры. Цяўкнулі, пяць ці шэсць танкаў задыміліся, а іх там ішло дзесяткі тры. Мікулец, затвор вырваў, у акоп закінуў, а сам не паспеў з усімі адбегчыся, мінамі накрыў фрыц пазіцыю. Угнуўшыся, памкнуўся ў сухія кіяшы ды не дапяў: цюкнуў асколак у нагу, вышэй калена, як гарачым жалезам апёк. З гарачкі, не чуючы болю, бег яшчэ Мікулец да змогі, пакуль у кіяшах прытомнасць не страціў. Знайшлі яго нашы праз суткі, адубелага на холадзе: немца трохі пацiснулі, падбіралі па акопах, у кіяшах забітых, каб пахаваць па-людску. Натыкнуліся на Мікульца, думалі, што сканаў, ускінулі на падводу разам з мерцвякамі, але на дрогкіх калёсах ад болю ажыў, застагнаў.

Неўпрыкмет сцямнела, вецер, здалося, аціх, толькі нячутна шуршэў дождж. Наперадзе нечакана вырасла чорная паласа прысад ля чыгункі, дарога тут пясчаная, не гразка, але ў мокрым, зляжалым пяску колы грузлі глыбока, і конік, напінаючыся з усіх сіл, глуха тупацеў наперадзе, у цемені. За голымі дрэўцамі прысад раптам пасвятлела, як праз рэшата, сталі відаць чорныя галіны, зялёныя шапкі акацый, якія чамусьці ў гэту восень не скінулі ўсё лісце. Праз якую хвіліну з-за паваротки выблiснуў на рэйкі яркі слуп святла. «Скоры, мінскі, — падумаў Мікулец. — Счас на станцыі прыпыніцца і далей, на Гомель памкне. За чыгункай гравійка пойдзе, а там і Ступы. Праз паўгадзіны дома буду».

Мікулец падагнаў лейцамі каня, бо дарога на пераезд крута брала ўгору, спыніўся перад шлагбаўмам, пазіраючы, як апошнія вагоны, з ярка асветленымі вокнамі, суцішваючы перад станцыяй ходу, але яшчэ імпэтна каціліся, з ляскатам.

У такім вось вагоне ў красавіку, паўгода назад, прыехаў дадому і Мікулец, тры месяцы адваляўшыся ў шпіталі, у Львове. Нагу дактары ўратавалі, але ж стала карацейшай, скрыўленай.

Уздыхнуў Мікулец, гледзячы на тры чырвоныя кропкі на апошнім вагоне, якія адплывалі ў цямноту. Дужа тады гараваў, падскокваючы з кіёчкам у шпіталёвым парку, але ж, разважыўшы, усё ж прымірыўся са сваім становішчам: нага — не галава, мог бы і скалець у тых венгерскіх кіяшах, калі б нашы прыйшлі пазней. А тут і ордэн Славы трэцяй ступені заспеў яго. За той бой, вядома. Маёр ваенкамацкі ўручыў.

Мабілізавалі Мікульца ўлетку сорак чацвёртага, калі на світанні ў Ступы увайшла рота нашых аўтаматчыкаў. Вёску яшчэ звечара пакінулі немцы. Аўтаматчыкі, адпачыўшы, пайшлі далей. На «студабекеры» прыехалі тылавікі, аб'явілі ўсім мужчынам прызыўнога ўзросту, каб прыйшлі да школы, перапісалі і тут жа пераапранулі ў вайсковае, выдалі каму «ППШ», каму трохлінейкі. Мікульцу дастаўся стары, абшарпаны аўтамат, якіх ён дагэтуль не бачыў. Сяржант Сямёнаў сабраў усіх гэтакіх недавукаў у клас, і праз паўгадзіны радавы Хведар Мікулец спазнаў ваенную навуку. Паваяваў трохі ў пяхоце, а потым тых, хто скончыў сямігодку, перакінулі ў супрацьтанкавую батарэю наводчыкамі.

Мікулец паваяваў крыху і ў сорак першым — паспелі ўзяць у войска на другі дзень вайны, але ж у першай сутычцы з немцамі іх роту разбілі. Ноччу Мікулец збег, тыдні два дабіраўся да Ступоў і ўсю вайну сядзеў ціха, асабліва не вытыкаўся. Паблізу вёскі вялікіх лясоў няма, партызаны амаль не паказваліся, затое гарнізонам стаялі паліцаі. Мікулец не пайшоў ні да тых, ні да другіх: вайна быццам яго не тычылася.

Мікулец падагнаў каня, калёсы пратарабанілі па няроўным, выкладзеным са старых шпалаў, пераездзе, лёгка пакаціліся ўніз: «Счас узграбуся на гравійку, — думаў Мікулец, там два-тры кіламетры праеду і ўлева, па грэбельцы, дацягнуся да вёскі». Увесь час трывожыла яго хата. Бёрны, вядома, прывязе, лес усім даюць, хто будуецца. А вось зруб скласці, трэба пуп намазоліць. Стахвен, вядома, падмагне вянцы класці. «Вось яна, жызня, растуды яе, — ціха вылаяўся Мікулец. — Грошы былі б, у лесніка Амельчанкі купіў бы гатовы зрубок, пяць на восем, не калечыўся б з нагой з сырым лесам. Зруб ладны ў лесніка, да вайны шчэ на прадажу стаўляў, куркуль. Э-эх, жызня, растуды яе. Кроў праліў немаведама за што, нагу пакалечылі, а падмагнуць чалавеку такому — ні-ні. Усе ў кусты».

Мікулец са злосцю, з пацягам шлягануў каня пугай, хоць патрэбы ў гэтым не было: калёсы цвірчалі ў глыбокай гразі, за чыгункай дарога ішла нізовінай, месца гразкае, глеістае. Конік памкнуўся быў наперад, але дзе ты вырвеш цяжкія калёсы з каламуты.

Неўзабаве дарога ўзгрэблася на вузкую, абсаджаную дрэвамі і кустоўем гравійку, няроўную, але сухую. Па правы бок, за прысадамі, праз паўкіламетра чыгуначная станцыя. «Ну, ужэ ж дацягнуся, ужо хутка», — весялей падумаў Мікулец. Неба пакрысе праяснілася, дождж перастаў сеяцца, на ўсходзе выплыў месяц, і дарога няпэўнай шэрай паласой абазначылася наперадзе. На скрыжаванні, там, дзе гравійку перасякае сцежка ад станцыі, Мікулец прыкмеціў цёмную постаць. Паўзіраўся, падагнаў каня і ўжо блізка разгледзеў, што гэта жанчына. Убачыўшы падводу, тая ўзмахнула рукой, выйшла на дарогу. Мікулец спыніў каня, і жанчына, ухапіўшы вялікі чамадан, хуценька падбегла да калёс, папытала:

— Вы проста едзеце? Мне да Капылоў трэба... Во, з поезда сышла...

Мікулец яшчэ раз моўчкі агледзеў жанчыну, пераеў погляд на чамадан і яму падалося, што быццам яна не тутэйшая, хаця гаворка знаёмая, вясковая.

— Не, маладзічка, у Капылах мне рабіць няма чаго, але садзіся, паўдарогі якраз і будзе. Са Ступоў я сам.

— Вой, тамака ж блізенька, — узрадавана войкнула жанчына, забегла ззаду калёс, усцягнула чамадан, прымасцілася сама на сене. — Дык дзякуй вам, а я ўжэ ня ведала, што тут пачаць рабіць.

Збоч, абярнуўшыся, Мікулец сачыў, як яна ўладкоўвалася на задку, падагнаў каня. Крыху памаўчаў, спытаў проста так, каб не нудзіцца:

— Адкуль жа ты едзеш?

— Вой, з Гэрманіі еду, ужэ дзён дзесяць таўкуся ў паяздох, — ахвотна адгукнулася жанчына. — Дзе на таварняках, а тутака во, у Мінску, пашанцавала на скоры сесці. Многа такіх цяперака, — уздыхнула, ямчэй уладкавалася на сене. — Здаецца, ужэ прыехала.

Мікулец скасавурыўся збоку на чамадан — вялкі, пузаты, відно, нямецкі. «Бач ты, прэ дабра, — падумаў мімаходзь. — І адзёжа ейная нічога. Плюшаўка шчэ новая, спадніца. Прыадзелася. Э-эх, не дапёр я да етай Германіі, не пашэнціла, а то б у шаўках бы вярнуўся». Памаўчаў, не абарочваючыся, спытаў:

— А як жа ты, маладзічка, угадзіла ў ету Германію?

Тая зноў ахвотна адгукнулася, быццам і чакала, што спытае гэты пануры дзядзька.

— А ета ж хапалі людзей у сорак трэцім, неяк вясной, снег шчэ ляжаў. Я сама з дванаццатага года, дзетак двое асталася гараваць, мужык на хронце. І на калені падала, і маліла, і прасіла, ані блізка. Немцы, праўда, толькі камандувалі, а паліцаі нашы, капылоўскія, горай за сабак. Удвох за рукі, за ногі пабраліся і ўкінулі ў тэю нямецкую машыну. А ў Гэрманіі ў баўера кароў даіла, пальцы во не згінаюцца, апухлі. Не дай божа, на горачка завезлі. Але я трывушчая, з-за дзетак усё сцярпела.

Яна ўздыхнула, паўзіралася збоч дарогі

на цёмныя прысады, быццам не верылася ёй, што дапяла да сваёй вёскі, глухавата працягвала:

— Ета ж во з поезду сышла, то бытта лягчэй дыхаць стала. Тамака чужое ўсё, духам іхнім прапітана. Не так ступіш, не так прынясеш, усё крыкі. Праўда, не білі. А па дзетках як плакала. І цяперака во ня ведаю, як жа яны тутака, ці жывыя? Сястра стрыечная ўзяла, мабуць, іх, з машыны ёй нема крычала, ірвалася, адтулека, дак па галаве далі вінтоўкай, цяперака во ў шчэ шуміць.

— Трохі ж дабра вязеш? — Мікулец з-за пляча, абярнуўшыся, тыцнуў пугаўём у чамадан.

— Вой, чалавеча, якое дабро. Трантаў трохі ўзяла, каб дзетак адзець, на дарозе падабрала. Ды сяброўка, разам гаравалі, голак прынесла, то падзялілася. Прадам мо на базары людзям, якая капейчына будзе. Тутака ж голыя ўсе...

«Маніць, сука, няйначай, — не паверыў Мікулец, — нахапалася ў тэй Германіі ад пуза, такі рэзрух прайшоў. І магазіны наросхрыст, і хаты. Бяры — не хачу. Вуннека Мікалай Баўтрук вясной прыцягнуўся з хронту. Не маніць жа, у Прусіі, казаў, у любы дом заходзі, людзей нямашака, бяры, што душа зажадае. Хапаў, пэўна, усё, ды руку адарвала заграбушчую. А ета і пагатове нажылася, войкае, што гаравала. На хронце гора, а ў хрыцаўскіх хлявох мо чысцей, чым у нашых хатах. Гаротніца, ядры яе».

Ён коса, збоку варожа зіркнуў на жанчыну, яна сядзела бокам да яго, абапёршыся локцем на чамадан, перавязаны брызентавым рамянём, зласнавата падагнаў коніка, хаця той і прытаміўся за доўгую цяжкую дарогу, крадком, аднымі вачамі, не паварочваючы галавы, слізгануў па чорных абсадах за кюветам, заёрзаў на сене, быццам што муляла яму. «Яшчэ кіламетры два везці яе, тамака мне налева, а ёй прама, — чамусьці ўзнікла думка. — Тутака на грудок дарога ўзбягае, а потым ападзе ўніз, да мастка, да балота. А мясціна глухая, волькі ды вербалоз». Казалі, шчэ да рэвалюцыі Чарток п'яны ішоў са станцыі, быў такі ў Ступах прыдурак, то ў тэм балоце з галавой булькануў, што і не знайшлі, толькі шапка на купіне асталася».

Быццам мулка было сядзець Мікульцу на драбінах, выпрастаў скалечаную нагу, зірнуў на неба: няпоўны месяц завалакла хмара, якая насунулася ззаду, цямнота, хоць вочы выкалі. Конік барджэй, без пугі, патрухаў з грудка, мякка, дробна біў капытамі па мокрым жвіры, калёсы труска падскоквалі.

— А ты, ета, маладзічка, хаця адпісала ў вёску, што жывая вяртаешся? — хаваючы дрыжыкі, якія праціналі ўсё цела, папытаў Мікулец. — Тэж, пэўна, чакаюць?

— Ай, не пісала. Пад мерыканцамі былі, дай малаграматная я. Выпусцілі, дак у дарозе ўсё, з лагеру ў лагер перасылалі.

Знойкі холад зноў працяў Мікульца. Масток усё бліжэй і бліжэй, балотам патыхнула, вадой застаялай. Мікулец ужо і не ўцяміў, як спыніў каня, злосна вылаяўся:

— Суп-понь, халера на яе...

Борздзенька скаціўся з драбін на ўзбочыну, прычыльгікаў да каня і, быццам падцягваючы супоню, ухапіўся за аглабліну, пацягнуў да сябе. Конік пераступіў нагамі, чуючываўкаватую злосць гаспадара, скасавурыў вока.

— Стой, адроддзе воўчае, — голас грубы, нутраны, і нават жанчына, якая дагэтуль спакойна сядзела, узняла галаву, трывожна паўзіралася ў цямноту.

Мікулец пратэпаў да калёс, быццам раздумваючы, садзіцца ці не, падгроб сена, на якім сядзеў, і раптам рука намацала гладкі, халодны дзяржак сякеры, на якую ён быў і забыўся; пацягнуў, але замінаў чамадан, і другой, вольнай рукой паспрабаваў ссунуць яго. «Цяжкі, халера. Голкі. Цэлае багацце». І ўжо бытта ў тумане, мітуслівым, гарачым рыўком вышмаргнуў з-пад сена сякеру, жанчына спалохана паспрабавала адсунуцца, узмахнула рукой, і Мікулец коратка, з усяе сілы ўдарыў яе... Яна нема закрычала, і ён, ужо не цямячы, што робіць, біў і біў, каб толькі не чуць яе страшнага крыку...

Па крывулях-вольхах, па вербалозу зашалясцеў дожджык, а Мікулец цягнуў абмяклае, яшчэ цёплае цела ў балота, далей ад дарогі, грузнучы па калені ў мяккім мокрым моху... Пастаяў, паслухаў, як булькоча чорная вада, і задыхана, прыпадаючы на скалечаную нагу, пабег да калёс, спяшаючыся, абярнуў чамадан на бок, прыкідаў яго сенам. «Усё, ніхто не бачыў, — задыхаючыся, шаптаў сухім, гарачым ротам. —Усё, прыеду, змыю кроў. Усё...»

З паэтычнай пошты

Мая ЛЬВОВІЧ

# МОЙ ЦІХІ БЕЛАКРАЮ...

●

Не буду праслаўляць любоў сваю,
Нікому сваю мову не хвалю
І не навязваю. Калі пішу,
Дык для яе тым ласкі не прашу...

У гонар у яе не п'ю віна,
На косы на яе не ўю вянка,
Ёй пышны не вымошчваю пасад.
Красу б ты, вочы меўшы, бачыў сам,
Красу ты сам адчуў бы, меўшы слых,
Красу б ты, сэрца меўшы, сам спасціг.

Я не прашу ёй, беднай, памагчы,
Гарэла б сэрца з сораму ў мяне,
Каб, гордую, ды лашчылі яе
З паблажлівай пагардай па плячы.

У кімсьці гэтая мелодыя ные,
Хтось, да струмка прыпаўшы, п'е і п'е,
Цяпельца гэтае хтось
затуліў ад халадоў,
Хтось ціха беражэ сваю любоў.

●

*Разам з талонамі на цукар жыхары Наваполацка атрымалі супрацьгазы.*
*З пісьма.*

Вестка ад вас, Уладзю,
Пісьмо.
Як жа я з тым зладжу,
З чым прыйшло?
Талоны паўсюль талоняць,
Ды каб у вас...
Цукровым талонам салодзяць
Супрацьгаз.
Выдзяляюць падушна.
Цешся з ільгот.
Дыхавіца душыць
Каторы год.
Дзяўчом душылася, ўлазячы
У супрацьгаз.
Куды ж заўтра, Уладзіку,
Можа, на Марс?

●

Ветка, мястэчка ветлае,
Яблыневае вецце
Над празрыстай Сожавай плынню —
З татавага ўспаміну.
Цяпер над іншым Сажом яна.
Яе твар, пакутай скажоны,
Адбіўся ў атручанай плыні.
Хай Ветка паклон прыме
Ад таты майго, веткаўца,
Які ўжо не даведаецца
Аб гэтым слове запозненым,
Аб гэтым паклоне апошнім.
Але і на тым свеце
Ён даведаецца аб Ветцы,
Ён і там пачуе маленне
Веткі сваёго маленства:
«Адсяліцца б хоць куды-небудзь!»
Даляцець маленне да неба.
І адчуе тата, і ўбачыць,
Як канае яго Бацькаўшчына.

## НЕСЦЕРКА

Вясёлая крынічанька ў полі.
П'еш і не нап'ешся.
Добрая сіла, з вякоў у жылах
зямлі несеная.
Канец дваццатага веку. Беларуская
народная п'еса —
«Несцерка»...

Несцерка! Хіба мёртвы бы не смяяўся!
Несцерка, што для Юркі і Насці,
Нявучаны, невыкшталцоны,
выхапіў шчасце
З-пад закапыленай кірпы
шкаляра Самахвальскага.

Несцерка, што пана закілзаў і засупоніў.
Столькі ўсяго ўжо названа на Беларусі
Імем Несцерка... Далібог, баюся,
Скончыцца-ткі, што землякі
яму высекуць помнік.
Высекуць і пасярод кірмашу паставяць,
Каб не вылазіла з шпар панства,
шкалярства, мальвінства,
Старое і ў навамодныя строі
ўбранае свінства.
А людзі каб ведалі: тут ён, калі трэба,
дык вось ён, Несцерка.

●

Грэх мерзнуць, калі йдуць лісты,
Адусюль, столькі лістоў.
Грэх мерзнуць, калі йдуць лісты,
Ад усіх, ад стольких сяброў.
Грэх мерзнуць, калі адзіны лісток,
Ад цябе лісток на парог лёг,
Грэх, далібог,
Мерзнуць.

●

Далёкі погук зноў лаўлю.
Знаёмы, дарагі да краю.
Я пазыўныя пазнаю
Твае, мой ціхі Белакраю.

Пачуй адказ і адпавет,
Усё, што берагу ў душы я,
Дзеля цябе адной, шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет.

●

Да пабачэння! Ды не разлучаемся.
Бо слова ёсць звычайнае: сябруем.
Трывогу вашую сабе бяру я.
І гордасці я вашай прычашчаюся.
Бо слова ёсць звычайнае. Бо шчасце
Зусім звычайнае — быць вашым другам.

●

Згубіўся недзе на пошце «ЛіМ».
Дашліце старонку з партрэтам тым.
Дзе лямант, дзе плач жалобны,
Дзе сяброў развітальныя словы.
І ягонае слова дашліце ў пісьме,
Апошнія дні ягоныя — мне,
Каб заплакаць, каб затужыць,
Каб тугу пакласці, дзе ён ляжыць.
Перасмягла горла, няма.
Ці з камення туга мая,
Ці слёзы мае замерзлі,
Ці не ўмею, не разумею смерці?
Ці грэх?
Не прыйшоў з рамкаю «ЛіМ»,
І калі б заплакала, дык аб жывым...

●

Красавік ты, красавік,
*Квітню мій хороший,*
Ты майго з'яўлення міг,
*Ти мое народження.*

Дваццаць трэцяга мяне
Маці нарадзіла.
І тры дні я, і тры дні
*Сонцеві раділа.*

Дваццаць шостага ўжо
Сонца стала чорнае.
Дваццаць шостага ўзышло
Гора маё горнае.

Тым зямлю маю звялі,
Што схавалі праўду.
Разляцеліся вятры
Чорныя — у заўтра.

Вымерлі лясы-бары,
Рэкі і даліны.
*Залишили по собі*
*Мертве покоління.*

Красавік ты, красавік,
*Ой, умів любити.*
*Народив мене — і звів,*
*Звів мене, мій квітню.*

●

«Краснаполле, маё Краснаполле!»*
Раставаў у цьме.
Поле сваёй долі
Пакідаў ты мне.
Наляцеў жа на поле воран,
Крумкач,
Зерне выдзеўб у ворыве.
Ты прабач.
Ты прабач мне, што на ворыве
Злое зяло,
Тое быллё чорнае
Узышло.
Берагла ж я Краснаполле
Удзень, уначы.
Поле долі тваёй — не здолела
Уберагчы.

*Радок Аляксея Пысіна

●

Чарнобыльская ноч.
У чыстым полі цікуе
Чатыры гады куля,
З цябе не спускае воч.
Гэтак было ўжо. Нас яна
Цікавала й тады.
Цікавала чатыры гады.
Толькі цяпер — нябачна.
Толькі цяпер — паволі.
Кроў выпівае-п'е,
Цяпер забівае-б'е
Бяззбройнага ў чыстым полі.

Якая на гэтай вайне
Твая палявая пошта?
Чатыры гады трывожнае:
Хай куля цябе абміне!

●

Добрай раніцы, добрай раніцы,
Добрай раніцы весняй вадзе!
Мне з вады хлапечаю радасцю
Усміхаюцца вочы твае.

Можа, хлопчыку, можа, хлопчыку
Будзе сніцца і ў далечыні,
Як хлюпоча ён, як хлюпоча ён,
Весні дождж на весняй зямлі.

Доўга доўжыцца, доўга доўжыцца,
Поўным поўніцца тая вада.
А мне з дождждыка, а мне з дождждыка
Ззяе весняя ўсмешка твая.

●

Я спяшаюся, я спяшаюся,
Па-дурному канверты трачу.
Я спяшаюся так, няйначай
Ужо заўтра ды нешта станецца.
Адмовяць рукі пісаць,
Дакульгаць ды скрыначкі — ногі,
Ці не стане змогі пасласць,
Ці атрымаць — змогі.
Я баюся дзень змарнаваць,
Я баюся хвіліну страціць,
Калі можна яшчэ адправіць,
Мне — сябе — адправіць — да вас.

Угодкі

# ШЛЯХАМ ПАКУТЫ...

***370 гадоў таму, у лістападзе 1623 года, у Віцебску пакутніцкай смерцю загінуў полацкі грэка-каталіцкі арцыбіскуп Ісафат Кунцэвіч. Па-рознаму ацэньваюць жыццё і дзейнасць гэтага чалавека нашчадкі. Вакол яго імя час ад часу ўзнікаюць дыскусіі, а то і не надта прыгожыя спрэчкі, але большасць сыходзіцца на тым, што гэта была неардынарная, моцная асоба, з якой звязана адна з пакутніцкіх старонак гісторыі Беларусі. Для вернікаў жа грэка-каталіцкага веравызнання ён — святы.***





Сёлета ўгодкі смерці Ісафата Кунцэвіча разам з беларускімі уніятамі ўшанавалі і прадстаўнікі грэка-каталіцкага духавенства з Латвіі і Украіны, манахі і манахіні, семінарысты Львоўскай грэка-каталіцкай духоўнай семінарыі. Яны пабылі ў Віцебску, прайшлі тымі мясцінамі, дзе цярпеў мучэнні святы Ісафат і дзе ён прыняў пакутніцкую смерць. На мурах былога манастыра прайшло набажэнства, увечары ля крыжа, устаноўленага ў гонар 1000-годдзя прыняцця хрысціянства на Беларусі, разам з удзельнікамі Віцебскай грэка-каталіцкай грамады яны чыталі акафіст і скончылі маліцца зноў на мурах манастыра.

А назаўтра высокае духавенства паехала ў Полацк, каб і там прайсціся сцежкамі, якімі хадзіў святы Ісафат, паглядзець на святую Сафію, у якой некалі правіў ён набажэнствы, і самім правесці некалькі набажэнстваў для ўдзельнікаў грэка-каталіцкай суполкі, праўда, не ў Сафійскім саборы, як гэта было за часам Кунцэвіча, а ў... цесным былым «чырвоным» кутку адной з гарадскіх устаноў. Гэткаму «камфорту» госці не надта здзівіліся, бо, як сказаў рэктар Львоўскай духоўнай семінарыі ўладыка Юліян, ім і самім добра зразумела цяжкое становішча уніятаў на Беларусі, таму што грэка-каталіцкая царква на Украіне таксама зведала цярновы шлях, і цяпер яны абедзве выходзяць з катакомбаў, як некалі пасля доўгіх гадоў праследавання выходзілі з іх першыя хрысціяне.

Параўнанне зразумелае. Пасля забароны Уніі ў 1839 годзе грэка-каталікі вымушаны былі пераходзіць альбо ў праваслаўе, альбо ў каталіцызм лацінскага абраду. На Полаччыне, як і па ўсёй Беларусі, спынілі сваю дзейнасць уніяцкія храмы, яны перайшлі ва ўладанне да новых гаспадароў. 28 лістапада гэтага года, пасля 154 гадоў перапынку, у Полацку зноў была адпраўлена архіерэйская грэка-каталіцкая служба. Правёў яе ўладыка Юліян у тым жа «чырвоным» кутку. Полацкія уніяты, дарэчы, звярталіся да мясцовых улад з просьбай дазволіць правесці гэтую ўрачыстую службу ў Сафійскім саборы, але тыя спасылаліся спачатку на небяспечныя трэшчыны ў храме, а потым — на прызначаны канцэрт. Старшыня уніяцкай суполкі Мікола Шараг з горыччу прамовіў пасля набажэнства: «Здаецца, улады проста забыліся, што святую Сафію нашы продкі будавалі не для канцэртаў». Зазначу, што Мікола тут трохі памыляецца. Летась, калі ў Полацку гучна святкавалася 1000-годдзе Полацкай епархіі, улады дазволілі праваслаўнаму духавенству правесці ўрачыстую службу ў Сафіі, і яе разам з шаноўнымі замежнымі гасцямі правёў сам патрыяршы экзарх усяе Беларусі ўладыка Філарэт. А за дзень да гэтага грэка-каталіцкі святар айцец Казімір таксама адправіў службу ў гонар той жа падзеі, праўда, не ў храме, а каля яго дзвярэй. Як кажуць, што было — тое было. Не нашмат яно змянілася і цяпер для полацкіх уніятаў. За гэты час яны дабіліся дазволу на арэнду «чырвонага» кутка, які да гэтага выкарыстоўвалі для набажэнстваў рыма-каталікі. Які яшчэ куток гэтак увайшоў у гісторыю?

І ўсё ж, нягледзячы на ўбогія ўмовы, якія мала спрыялі святочнаму настрою, настрой ва ўдзельнікаў урачыстасцяў быў зусім не песімістычны. Прынамсі, пасля службы ўладыка Юліян казаў:

— Нічога не вырастае там, дзе нічога не пасеяна. Калі ж няхай сабе і маленькае зернейка кінута ў зямлю, то яно з Божай дапамогай павінна вырасці ў прыгожае дрэва. І я веру, што цудоўнае дрэва, імя якому Беларуская грэка-каталіцкая царква, абавязкова ўзрасце на Беларусі. Тым больш, што і ў Віцебску, і ў Полацку мы ўжо спаткалі прыгожыя яго парасткі — грэка-каталіцкія суполкі. Ім нялёгка, першым заўсёды нялёгка, але хтосьці павінен быць гэтым першым. Мы вельмі ўдзячныя, што нашы аднаверцы з Полацка запрасілі нас, і мы ў якасці пілігрымаў змаглі пабыць на зямлі, дзе жыў і прыняў смерць за Хрыстову веру святы Ісафат Кунцэвіч. Мы разам з беларускімі братамі і сёстрамі прадаўжаем яго справу і нясём людзям праўду аб адзінай царкве, аб тым, што павінен быць «адзін статак і адзін пастар». Мы верым, што надыдзе гэты час.

Веры і ўпэўненасці ўладыкі Юліяна можна, напраўду ж, пазайздросціць. Асабліва, калі прыгадаць, што падзел хрысціянскае царквы — гэта «раны на целе Хрыста». Каму ж наканавана залячыць гэтыя раны? Няпростае пытанне асабліва востра коле душу каля Полацкай Сафіі. Ды маўчыць Сафія: па ёй самой вунь пайшлі трэшчыны, падобна, што яна сама чакае людской дапамогі. Ці дачакаецца? Маўчыць скаваная лёдам Дзвіна, схавала пад тоўстым лёдам свае воды, у якіх гэтак прыгожа адбіваецца святая Сафія. Застыла Сафія, не глядзіцца больш у празрыстую раку, не любуецца сваім адлюстраваннем, і пакуль не растае лёд, да самае вясны яна, відаць, не паплыве «над Дзвіною, нібы карабель».

**І. ЖАРНАСЕК**

*На здымках: падчас угодкаў.*
*Фота Р. РУСЕЦКАГА*

Думка гледача

# ЦІ ЎСЁ РАЗУМЕЮЦЬ У СТАЛІЦЫ?

## З НАГОДЫ ПРЭМ'ЕРЫ Ў ПРАВІНЦЫЙНЫМ ТЭАТРЫ

Канец леташняга сезона для Мазырскага эксперыментальнага тэатра «Верасень» быў плённым хоць бы таму, што адбылася прэм'ера «Несцеркі», славутай п'есы ў новым увасабленні. Паставіў яе цяперашні дырэктар і мастацкі кіраўнік тэатра С. Кліменка /мастак — П. Захараў, балетмайстар — А. Кастрыцкі/.

Крыху насцярожыла на самым пачатку спектакля незвычайнасць узнаўлення атмасферы кірмашу: пад самай столлю — вешалкі з вопраткай, у асноўным адзенне паноў і падпанкаў. Сялянскай вопраткі не відаць было, можа, таму, што апранута была ў яе большасць выканаўцаў? Свяцілася яна ўсімі колерамі вясёлкі на акцёрах, і ўтварала непаўторны каларыт кірмашовага гуляння. Такім чынам, сама дэкарацыя п'есы выгадна вылучала асноўную аўтарскую мэту: супрацьпастаўленне народнага і антынароднага, шчырага, іскрыстага і — штучнага, паказнога.

Здзівіла і расчаравала тое, што ўвесь гэты рознакаляровы і звонкагалосы вір рэжысёр-пастаноўшчык абмежаваў плакатамі-праклaмацыямі з намаляванымі глечыкамі, міскамі, бульбай, гуркамі, цыбуляй і іншымі сведчаннямі-пазначкамі кірмашу. Расчаравала і тое, што музыка гучала па фанаграме, а танцавалі чамусьці толькі «Цыганачку», — ніводнага беларускага народнага танца не было.

Успомніліся мне мае маладыя гады, мой любімы народны тэатр, на аснове якога, дарэчы, і ўзнік цяперашні прафесійны калектыў. Яго рэжысёр — Міхаіл Яўхімавіч Колас — чалавек апантаны, энергічны, мог не за плату, а за падзяку знайсці музыкантаў, стварыць аркестр, які суправаджаў спектаклі і ў горадзе, і ў вёсцы. У «Паўлінцы», у «Раскіданым гняздзе», у «Людзях на балоце», у казцы «Салодкі пірог» на сцэне былі сапраўдныя музыкі, — гэта вельмі ажыўляла спектакль.

Але пойдзем далей па крутых сцяжынах народнага характару, сцэнічнага жыцця, прыгледзімся бліжэй да герояў, да іх паводзін.

Мазырскі Несцерка — асоба яркая, панароднаму простая, але за гэтай абалонкай знешняй прастаты цэлая гама пачуццяў, нястрымная энергія, любоў да людзей, найвялікшае жаданне хоць на кропельку палепшыць лёс нешчаслівца, няўдачніка, дапамагчы ў бядзе любой цаной, няхай гэта каштуе нават самога жыцця. Несцерка Андрэя Іванавіча Лазароўскага — не толькі герой з сялянскага асяроддзя. Гэта сімвал праўды і справядлівасці, сімвал беларускасці з яе талерантнасцю, разважлівасцю, памяркоўнасцю і жаданнем разабрацца ва ўсім без крыві і гвалту.

Трэба бачыць вочы акцёра /а яму ўжо, дзякаваць богу, 83 гады/. Маладым агнём адсвечваюць яны, калі яго герой робіць людзям дабро, калі даведваецца аб нешчаслівым каханні Насці і Юрася і дапамагае ім разблытаць клубок чэрствасці і няўвагі.

Андрэй Іванавіч — выхаванец першага Мазырскага самадзейнага тэатра. Клапаціўся аб яго акцёрскай будучыні і славе М. Я. Колас, які, на жаль, пакінуў Мазыр, з'ехаў у Расію і якога /зноў-такі, на жаль/ ніхто асабліва не затрымліваў. Неаднаразова былы рэжысёр «Верасня» звяртаўся ў Міністэрства культуры наконт прысваення А. І. Лазароўскаму звання, але... не так проста прабіць сцяну непаразумення і раўнадушша. У кожным куточку Палесся ведаюць А. І. Лазароўскага, ён даўно ўжо без рэгалій і званняў народны артыст Палесся, Гомельшчыны, але ў сталіцы гэтага не разумеюць. Ды і што казаць, калі сталіца гэтая нічога не зрабіла нават для таго, каб сабраць людзей у Доме акцёра на творчы вечар, прысвечаны 75-годдзю А. І. Лазароўскага. Людзі прыехалі з Мазыра — а гледача няма...

Але вернемся да спектакля. Як дасціпна пададзены кантраст паміж носьбітамі народнага светабачання і тымі, хто ўзрошчаны хлебам сялянскім ды няздольны яго ўшанаваць! Каларытнымі аказаліся фігуры пана Бараноўскага /М. Кліменка/ і Шкаляра /А. Кручко/. У іх шмат гратэскавага, прыўзнята-штучнага нават у вонкавым аблічччы /Шкаляр высокі і худы, нібыта ўвесь свой век сох над навукамі, пан жа выглядае быццам і па-панску, але доўгія рыжыя вусы, акуратна заплеценыя ў касічкі з банцікамі, надаюць яго грознай асобе даволі смешны выгляд яшчэ і таму, што спалучаюцца яны з сакавітым басам/. Рэжысёрскае рашэнне своеасаблівае: застаецца прасветліна ў сапсаваных душах герояў, ім даецца апошняя магчымасць стаць людзьмі.

Цяжка было пазнаць у адметным выканаўцы ролі пана Бараноўскага былога студэнта нашага Мазырскага педінстытута Мішу Кліменку, які некалі рабіў першыя нясмелыя артыстычныя крокі, спрабуючы свае сілы ў ролі Валодзькі ў макаёнкаўскім «Трыбунале». Парадавала тое, што калектыў папаўняецца таленавітай моладдзю. Запомніліся галоўныя выканаўцы: Ён і Яна, Юрась і Насця /М. Збіцкі і А. Баранская/. Ім удалося пераканаць гледача ў святасці і чысціні першага пачуцця нясмелага хлопца і дзяўчыны, якія, дзякуючы падтрымцы добрых людзей, здолелі адстаяць сваю чалавечую годнасць і права на каханне.

З коласаўскіх паплечнікаў, па большыні сваёй, засталіся ў тэатры, апрача А. І. Лазароўскага, людзі пенсійнага ўзросту. Гэта В. Казлоўская, М. Тарасенка, В. Нагорная, Н. Кунцэвіч. У «Несцерцы» яны іграюць эпізадычныя ролі, але як іграюць! Болей трэба было б маладым вучыцца ў старэйшых таленавітых акцёраў...

Адчуваецца, што Сяргею Кліменку, кіраўніку калектыву, жыць... няпроста. Няма ў Мазырскага тэатра «Верасень» трывалай сувязі з вядучымі тэатральнымі калектывамі краіны. Што казаць пра нейкія сустрэчы, нарады і кансультацыі, калі на гастролях у Мазыры купалаўцы і коласаўцы бываюць раз у 10—20 гадоў. Былі «Песняры», «Сябры», сімфанічны аркестр, Акадэмічны хор Беларусі, прыязджаюць да нас і замежныя калектывы, а вось прапагандаваць тэатральную нацыянальную культуру — няма каму...

Мазырскі тэатр абслугоўвае чарнобыльскую зону жорсткага кантролю, — Хойніцкі, Брагінскі, Ельскі, Нараўлянскі і іншыя раёны. Трэба бачыць, як яго там чакаюць, як сустракаюць, як ён там патрэбны дарослым і дзецям. Няўжо гэты калектыў не заслужыў пільнай увагі з боку Міністэрства культуры і сваіх знакамітых калег?

25 гадоў па каліўцу збіраў М. Я. Колас найвялікшы, найдаражэйшы скарб Палесся — народныя таленты. Шмат што ўдалося яму зрабіць. Не кожнаму прафесійнаму калектыву выпаў гонар сыграць на сцэне Крамлёўскага тэатра, атрымаць залатыя медалі лаўрэатаў, заваяваць галоўны прыз на Прыбалтыйскім фестывалі тэатральнага мастацтва.

Памятаю, як Іван Мележ хацеў, каб «Людзі на балоце» ў выкананні мазыран былі паказаны на сцэне купалаўскага тэатра. Так і не дачакаўся...

**Галіна ДАШКЕВІЧ**

*г. Мазыр*

# ГАСПАДАР ГРААЛЯ

*(Пачатак на стар. 5)*

дных» рэчаў студэнтаў. Першаадкрывальнікам вёскі пасля вайны быў не хто іншы, як Лявон Баразна, які паводле сваіх вандраванняў па вёсках Гродзеншчыны склаў імправізаваны, аматарскі альбом — у асноўным са здымкаў адзення і прылад працы /гэты рарытэтны альбом з беларускай этнаграфіі знаходзіцца ў архіве Міхася Хведаравіча, я яго гартаў. — **Ю. З.**/. Баразна і натхніў студэнтаў ідэяй этнаграфізму, заразіў сваёй мовай і патрыятызмам... Потым ужо яны самахоць рухаліся ў навуку і пракладалі там новыя кірункі. Міхась жа адпачатку захапіўся народным касцюмам: ён да інстытута скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці канструяванне і мадэляванне адзення, добра ведаў швейную тэхніку, усе прыёмы шыцця, і вельмі любіў завіхацца над вырабам адзення — як, на яго погляд, таксама мастацкім, а не толькі вузкапрыкладным творам рук чалавечых. /Пасля гэтае шаўцоўска-краўцоўскае ўмельства надта прыгадзілася яму, калі давялося займацца стварэннем сцэнічных касцюмаў для Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча і іншых мастацкіх калектываў/. Папярэднікаў у яго не было — прастора чыстых магчымасцяў. Ён і выкарыстаў іх, ідучы сваім шляхам... у вёску. З прагай спазнаць няхітрыя сялянскія скарбы, без /так было перш/ усведамлення якіх-колечы «звышзадач» Міхась Раманюк на дзесяцігоддзі аддаў сябе вёсцы; няма, бадай, на Беларусі зараз мястэчка ці буйной вёскі, дзе б ён ні быў. Па сутнасці, ён ператварыўся ў сапраўднага «народніка», бо збор аўтэнтыкі быў толькі часткай, можна сказаць, фармальнай, — больш шырокага і глыбокага — духоўнага пранікнення ў сялянскі свет Беларусі. Бо дзеля таго, каб заглянуць у той клуначак «на смерць», трэба было перш прайсці шлях да душы тае жанчыны, выслухаць яе, можа, найшчырэйшую за ўсё жыццё душэўную споведзь, паспагадаць гаротніцам і небаракам... І толькі потым, можа, скарыстаць што-колечы з няхітрага скарбу, а то й не скарыстаць...

* * *

— Людзі перада мной адкрываліся, бо я не лез да іх напралом, без жадных перасцярог, а знаёміўся спакваля, пытаўся заўжды спачатку пра лёс, долю, і толькі потым прасіў расчыніць куфар альбо камору. На ўвагу да іхняга жыццёвага лёсу людзі неяк удзячна адгукаліся; я адчуваў, што гавораць яны вельмі шчыра, спавядальна... Цяпер моцна шкадую, што не было ў мяне тады магнітафона, што не запісваў тыя спавяданні, — атрымалася б, відаць, цэлая энцыклапедыя лёсаў беларускага сялянства... Сотні, тысячы сустрэч-знаёмстваў і столькі ж лёсаў-аповядаў... Потым, перазнаёмячыся, людзі паказвалі і андарак «на смерць», і кашулю, і хустку... Вельмі шкадую, што не запісваў тых расповядаў...

* * *

Затое збіраліся рэчы, асабліва расла калекцыя народнага адзення. На яе аснове пазней і было зроблена Міхасём Хведаравічам мастацтвазнаўчае раянаванне народных строяў Беларусі і выдадзены памянуты альбом — галоўная, як ён лічыць, яго «заслуга» ў культуры. Не йнакш дзякуючы таму Беларусь з канца 70-х пачала займаць свой пасад між народамі не ў чыім-небудзь, а ў сваім, адметным, аўтэнтычным убранні: калекцыя адзення М. Раманюка экспанавалася ў Парыжы, Ліёне, Санкт-Пецярбурзе, Кіеве... Пачалі знаходзіцца пэўныя аналогіі касцюма беларускай жанчыны канца XIX — пачатку XX ст. і ўбрання жанчыны галандскай... І інш.

* * *

— ...Чаму літоўцы, эстонцы імкнуліся да незалежнасці мацней, чым мы? Таму што калі ў іх нацыянальнае свята, то інтэлігенцыя апранала народныя касцюмы і выходзіла на вуліцы, плошчы /сам бачыў, калі вучыўся ў Вільні. — **Ю.З.** — Карнавалізацыя ўсёй краіны!/. У салонах-магазінах яны куплялі касцюмы, выробленыя аўтэнтычнымі майстрамі, творчасць і праца якіх там заўсёды цанілася і цэніцца вельмі высока, нашмат вышэй, чым у нас. Прысутнасць аўтэнтычных рэчаў у сям'і, у інтэр'еры жытла для прыбалтаў — безумоўная, бо яны, рэчы, — індыкатары і вылучальнікі нацыянальнай энергіі, сродкі сімвалічнай сувязі з продкамі. Гэта і спрыяла самасцвярджэнню культуры /і, можа, мацней, чым якія свядома-палітычныя сродкі/. На жаль, у нас хіба Максім Танк апранаў кашульку, калі яго маляваў Пётра Сергіевіч...

— Зноў жа — у Вільні тое было...

— Так. Цяпер так апранаецца моладзь, якая ладзіць вечарыны. Дарэчы, моладзь робіць касцюмы сваімі рукамі. Напрыклад, гурт «Ліцьвіны», Валянціна Якімовіч з коласаўскага ліцэя шмат кашуль вышывае, я купіў у яе мулінэ...

— Такім чынам, рэчы застаюцца для наступных пакаленняў, што адрываюцца ад папярэдняй глебы, — сымбалямі панадчасавай сувязі пакаленняў?

— Акрамя таго, выхоўваецца звычайная пашана да тваіх уласных, жывых бацькоў і сваякоў. Японцы керамічную чашку для гарбаты, якую вырабіў прадзед, цэняць вышэй, чым вырабы з золата /чай у майстэрні пілі, вядома, з японскіх філіжанак... стылізаваных, аднак. — **Ю. З.**/.

Нам вельмі важна сёння стварыць як мага больш такіх рэчавых «індыкатараў», каб яны траплялі ў кватэры. Бо ані тэлевізар, ані кіно не заменяць р э ч а ў...

●

Што да мяне /**Ю. З.**/, дык я ўпершыню спазнаў пачуццё форсу, прымераўшы на галаве рэч — дзедаўскі саламяны капялюш... не, не беларускі, — нямецкага паходжання, баўэрскі; дзед прывёз яго дамоў з нямецкага палону, куды трапіў ажно ў 1939-м /жаўнеж Войска Польскага/, а вызваліўся — у 1944-м... А сёння ў мяне з «нацыяналістычных» рэчаў — хіба матчыны сурвэты, вышытыя маці ў дзявоцтве, на пасаг. Яны, накінутыя на абажур настольнай лямпы, зрэдчас напамінаюць мне пра іншае, цяплейшае, дамашняе цяпло на свеце... Толькі цяпер такіх сурвэтаў ніхто не вышывае...

Як не разумець, што да стыхійнай мастацкасці, мастакоўскага майстэрства вёску змушалі самі ўмовы жыцця, калі ўсе патрэбы і запатрабаванні вырашаліся на месцы: хлеб, малако, мяса, адзенне /з абуткам вось была праблема/, прыладнае начынне, само жытло, хата і нават лубочныя віды, вышытыя дзеля аздобы хаты на даўгіх кавалках матэрыі. Ды й нават царква была ў хаце, дамашняя /і цяпер так ёсць/. У гарадской кватэры вяскоўцу чагось не стае, не хапае... Цэласнасці ці самадастатковасці, ці чаго яшчэ? Бо вясковая хата — гэта сапраўдны /па, так бы мовіць, функцыянаванні/ за́мак, крэпасць з усімі выгодамі. Дом з вялікай літары. І, дарэчы, такім ён стаў для нашага селяніна, для маіх бацькоў — зусім не «старшыняў» — якраз у злашчасныя «застойныя»: у канцы 60-х, у 70-я гады наша вёска расквітнела ва ўсіх сэнсах, апроч, сапраўды што, «ідэалагічнага»: борздка будаваліся хаты-мураванкі і з дрэва харомы, набывалася тэхніка — матацыклы, легкавыя машыны, расло падвор'е і рахункі на ашчадных кніжках. Выдаткаванне бацькамі-вяскоўцамі дзецям-гараджанам грошай на машыну альбо на «кааператыў» было нормай! Стан цяперашні варты жалю ў параўнанні з тымі часамі і іх магчымасцямі. Так што сялянства цалкам небеспадстаўна кляне цяперашнія неразбярыху і заняпад. «Савецкая ўлада мяне на... ла!» — адчайна-пакорліва таму, што адбылося, выказаўся мне неяк аднавясковец-працаўнік, што працаваў на ферме і да 1991 года наскладаў на кніжку 40 тысяч для сыноў-юнакоў! /Гадуючы і здаючы быкоў, свіней і г. д./. А што з тымі грашыма зберажонымі стала пасля жніўня 1991-га — вядома... Вось таму і «на... ла»...

●

Рэчыўны свет беларуса — сродкамі лектара — раскрывае перад студэнтамі М. Раманюк. Але лекцыі ён не кажа — пяе, спявае, прызнаючыся ў любові да гэтага зрубу, аканіц, печы... Ён, як закаханы чалавек, заражае сваіх дзеўчынёх-«крытыкес» /мастацтвазнаўцаў будучых/ гэтым каханнем да роднага, свайго. Ён і сам — прыклад любові; такая асоба вартая сабою самай, а не вымучаным навуковым аўтарытэтам альбо спрактыкаваным рытарствам перад аўдыторыяй...

* * *

*О роднае маё! Як доўга да цябе*
*Ішоў я, кволы падарожнік...*

* * *

Міхась Раманюк дапяў-такі да... Беларускай Жанчыны. Ён у яе і закаханы, бадай што, найбольш. Бо — што́ такое плацце /не сукенка!/, — як не вобраз душы, мары тае жанчыны, якая яго вырабіла і апранула?

— ...Касцюм пачынаецца з самога вобраза, з падбору жанчыны. У нас вялікая праблема стварэння нацыянальнага тыпажу. Мне хацелася, каб мае строі насілі тыпажныя жанчыны-беларускі. Таму для фатаграфавання я заўжды доўга падбіраў жанчын, каб іх выявы, па-першае, увасаблялі нацыянальны тып, па-другое, каб яны ў будучым сталіся карыснымі мастакам-жывапісцам. Дарэчы, у ілюстраваным выданні эсэ У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» выявы жанок таксама адабраны ашчадна, бо аўтар разумеў, што гэта болей, чым фота, гэта — вобраз...

— Вы, мне здаецца, занадта сціпла выдаяце сваю быццам выключна збіральніцкую місію ў справе стварэння народнага касцюма. Усё-такі вы падыходзілі да справы як творца, МАСТАК...

— ...У справе стварэння ідэалу трэба давяраць таму творцу, які вырас на гэтай глебе, на тутэйшай зямлі. Выпадковы чалавек, вырасшы на салонах, выхаваны на часопісах мод, будзе маляваць часопісны, інтэрнацыянальны вобраз-тып манекена. Мода — інтэрнацыянальная рэч. У Парыжы новыя ўборы дэманструюцца на мулатках...

Так што давяраць варта трэба мастаку, які зросся з глебай. Такі мастак лепш зможа вылучыць тыпаж. Тыпаж — як не толькі знешнасць, але і як душу, духоўны стан, характар...

— Значыць, строй пачынаецца з ЖАНЧЫНЫ?

— Безумоўна.

Па-першае, трэба мець веды, бо часта змешваецца адзенне з розных рэгіёнаў, розных этнічных груп, і яго трэба ўмець адрозніваць. Гэта часцей здараецца на памежжы. Па-другое, спалучэнне ў часе. У сялянскіх куфрах захоўваецца, не раўнуючы, адзенне гісторыі, розных стагоддзяў. Важна выявіць стыль часу. Таму даводзілася фарміраваць і стылі. У нас, дарэчы, дагэтуль уяўленне пра Беларусь занадта «роўнае», аднастайнае, адно-беларускае, калі можна так сказаць. А Беларусь — розная! Розная — па этнаграфічных праявах. Возьмем для прыкладу хоць бы тое ж самае адзенне: разнасць суцэльная. І гэтую разнасць можна прасачыць па ўсёй традыцыйнай культуры: розніцца фальклор, мова /дыялекты/, матэрыяльная культура і г. д. У Літве, вы ведаеце, даўно прыняты этнічны падзел на некалькі самастойных, адрозных этнічных груп. Думаю, для нас гэта задача будучыні. Найперш — задача для этнаграфічнай навукі і навук, з этнаграфіяй звязаных...

— Але вернемся, спадар Міхал, да мастацкага зместу вашых строяў. Ці можна назваць строй мастацкім выяўленнем пэўнага духоўнага ідэалу нашага народа /як, скажам, маляванкі Алены Кіш/?

— У нейкім сэнсе можна. Калі назваць касцюм, строй адмысловай ідэальнай мадэллю, то ідэальнай мадэллю чалавек хоча існаваць у Сусвеце, у Космасе... Прыкладныя рэчы тут не падыходзяць. Жанчына наша ніколі не пойдзе фатаграфавацца, калі ў яе запэцканы фартух... Яна абавязкова павінна пераапрануцца, памыцца, прычасацца. У запэцканым, буднім адзенні цяжка выглядаць годна і пашанліва.

А што датычыць філасофіі строю, дык ён, строй, як бы спалучае чалавека ўнутранага з навакольным светам. Строй маскіруе цела ад знешняга свету. Адзеты чалавек — гэта ўжо не сапраўдны, не рэальны чалавек, а ідэальны — бо аздоблены, прыкрыты адзеннем, якое выяўляе чалавека для свету ідэальна. Калі назваць чалавека інтымным, малым космасам, а свет — космасам вялікім, то апратка — абалонка чалавека паміж целам і светам, паміж малым і вялікім космасамі. Гэтую ж мяжу паміж космасам сімвалізуюць парог і дзверы ў хаце...

Так што той ці іншы чалавек для нас заўсёды асацыюецца ў звязцы з нейкай апраткай. Апратка — знешні вобраз чалавека. Прычым кожная дэталь адзення можа нешта сімвалізаваць: напрыклад, пэўныя віды фартухоў сімвалізуюць цяжарнасць жанчыны /бо фартухом яна як бы прыкрывае будучае дзіця ў сабе/; пояс — тую ж мяжу паміж малым і вялікім космасамі: жанчына без пояса — р а с п у с н а я...

— Я думаю, сучасная жанчына ў вырабе плацця больш глядзіць на тое, што адзела суседка, альбо заклапочана тым, чым прынадзіць мужчыну, — чым думае пра «космасы»...

— Тым і адрозніваецца традыцыйная культура, касцюм, ад касцюма дызайнера, што першы не тыражуецца, нават не дубліруецца. Народны касцюм дапасаваны да **адной** асобы. Нашы пра-прабабулі, дый нават маці яшчэ, рабілі касцюмы для сябе с а м і, уласнаруч. А адзенне горада — эталоннае, стэрэатыпнае, г. зн. ідэал красы тыражовы, не настолькі індывідуалізаваны, як у культуры традыцыйнай вёскі. Канешне, найлепшы варыянт для жанчыны — заказваць і шыць плацце ў швачкі з улікам індывідуальных запатрабаванняў, але ўсё адно індывідуальнасць тут не тая, што была раней, калі жанчына вырабляла строй сама...

— Дык, можа, знаходжанне ў «сітуацыі вёскі» ўвогуле больш спрыяльнае для творчага выяўлення чалавека /любога, не толькі «мастака»/, чым знаходжанне ў «сітуацыі гораду»?

— Магчыма. У кожным разе ў вёсцы народ — сам творца сваёй красы...

●

Можа скласціся ўражанне, што альбом адзення М. Раманюка па змесце занадта «штыльны», сурова-стрыманы, што ў ім зашмат цноты ды мала «душы», «эрасу»... Не сказаў бы, што эрасу як такога ў альбоме няма, хутчэй наадварот: альбом мне ўяўляецца ўвогуле **першым** доследам беларускай жанчыны як прадмета любавання; эратычнасць жа — уласцівасць плоці натуральнай, спакойнай, не знарочыста-раздражнёнай... Мне асабіста дзяўчаты раманюкоўскага альбома вельмі нават сімпатычныя /і надзвычай цяжка адрозніць сярод убраных прыгажунь памочніц-студэнтак і вясковых «аўтэнтычных» дзяўчат; шкада, што такіх здымкаў у альбоме надта няшмат.../.

Па сутнасці, Міхась Хведаравіч сабраў першую калекцыю тыпаў беларускай жанчыны: з цэнтральнай Беларусі /заможны з прыкметамі «заетасці»/, з Палесся /першародна-дзікі/, з усходу /замучана-заклапочаны/ і, нарэшце, з захаду — заможна-свабодалюбна-шляхотны тып /узор апошняга, як на маё ўспрыманне, — н. 400, «жанчына ў традыцыйнай намітцы і світцы. Канец XIX ст. Брады, Пружанскі раён»; яна ж — н. 394 у альбоме; здымкі 70-х гадоў/. Міла бачыць на тых «палявых» здымках і Яўгена Шунейку з Пётрам Васілеўскім — у тыя гады адданых нейкі час справе этнаграфічнага адраджэння...

А калі казаць пра тое, што выклікае ў мяне асаблівае асабістае замілаванне, дык гэта выява неглюбскага строю /н. 231 у альбоме/, дзе мірная кампанія едзе на возе: жанчыны, дзяўчаты, хлапчукі-падшыванцы... Вёска едзе ў рай... Куды ты едзеш, вёска смяхотлівая, у які рай?..

* * *

— Дык калі ж, Міхась Хведаравіч, **знікне** наша вёска? /Задаю, думаючы што «правакацыйнае» пытанне/.

— Яна ніколі не знікне... І напрыканцы XIX ст. таксама казалі, што традыцыйная культура знікае... Але я і сёння падчас экспедыцый /нават у вёсках, дзе не раз быў, у тых жа маіх любімых Аздамічах у Столінскім раёне/ знаходжу н о в а е, раней невядомае. У **рэчах** традыцыйнай культуры можна разгледзець **усю** традыцыю — у адным зрэзе. Напрыклад, аналізуючы паходжанне касцюма, можна дайсці да вытокаў народа... Яна сінкрэтычная, культура наша.

У мастацкім сэнсе традыцыйная культура набывае новыя формы. Чалавек і па сённяшні дзень купленыя рэчы імкнецца перарабіць пад сябе, перашывае, напрыклад, плацце і г. д. Відаць, традыцыя знікне тады, як знікне народ...

Я вельмі веру ў адраджэнне свят — асабліва Дзядоў. У лучнасці з продкамі ты робішся дужэйшым... А цяпер мы бачым разрыў традыцыі, нешанаванне працы бацькоў. Калі ў вёсцы сучасная маладзіца **вышываным** ручніком вымае з печы саганы — гэта ўжо дэфармацыя традыцыі, разрыў... Знікне вёска, якая набліжана да горада: пераходная. У такіх вёсках перарываюцца адносіны з продкамі, родам... Застанецца някранутая горадам вёска і сам горад.

— Хіба няма падстаў не баяцца, што гэты ненажэрны традыцыйнаю культураю горад не паглыне і пакуль някранутую вёску?

— Але з горада людзі зноў перасяляюцца ў вёску... Тут вяртанне ўвогуле да прыроды, таму што горад касуе гэтую лучнасць Чалавека і Прыроды, і дзесь падсвядома такі перарыў адчувальны для беларуса /як і фізіялагічна адчувальны таксама. — **Ю. З.**/. Так што такое вяртанне — натуральнае.

...Няспынна ўтвараюцца новыя супольнасці людзей. Адны суполкі збіраюцца, іншыя — раскідваюцца, гэта няспынны працэс... Затрымаць супольнасці нязменнымі немагчы-

ма. Урбанізаваная культура, такім чынам, можа зноў трансфармавацца ў традыцыйную...

— Мне здаецца, што сённяшні гараджанін, які вырас на «відзіках», прыйдзе ў вёску больш як спажывец, а не як нейкі там «аднаўляльнік традыцыі»...

— Але ёсць генетычны покліч вяртання, які з цягам часу ў чалавеку прарываецца. Напрыклад, зусім неадразу дарослы чалавек становіцца «нацыяналістам», не адразу задумваецца, дзе і што яго Радзіма, чаму ён — **гэты**, а не той... Зародзяцца новыя традыцыі, адпаведныя новай рэчаіснасці. А ранейшыя аўтэнтычныя здабыткі застануцца ў выглядзе сувенірнай прадукцыі. Адраджаюцца ж гурткі, народныя рамёствы... Вядома, народны касцюм у тым выглядзе, якім ён быў, паўтарыць немагчыма...

— Вам не сумна гэта ўсведамляць?

— Як паглядзець... Эстонцы, захопленыя ідэяй аўтэнтычнасці, нейкі час спрабавалі на адным з астравоў захаваць традыцыйны лад жыцця. Ды — турысты-«выпрабавальнікі» не вытрымалі такога ладу... Застаецца тэатр, нацыянальнае кіно, опера, сувенірная прадукцыя, абагачэнні сучаснага касцюма...

— Ці ёсць у нас фабрыкі, якія б маглі выраблячь хоць бы стылізаваную пад аўтэнтыку прадукцыю?

— Гэта праблема з праблем. Я не бачу тут выйсця, хоць і выступаю часта... На гэтым не заробіш грошай. Энергію роду ў плацце можа закласці толькі аўтэнтычны майстра... У Літве аўтэнтычныя рэчы — рукатворныя, зробленыя надомнікамі. У Беларусі ёсць камбінат Саюза тэатральных дзеячаў, дзе робяцца касцюмы для сцэны, але якая ж там аўтэнтыка...

Выхад ёсць. Гэта стварэнне фальклорна-этнаграфічных калектываў, у якіх бы самаруч рабіліся б касцюмы. Каб не з вёскі людзі ехалі ў Менск, а на месцы рабілі строі. І падключалася школа. Навошта там урокі працы /асабліва ў вёсцы/ — дзеля «асваення» станкоў?!.

Патрэбны таксама навуковыя лабараторыі, без іх анікуды не дзенешся. Вясковая жанчына ўпаасобку з такой работай не справіцца, бо ёй трэба паказаць, што шыць. Многае загублена, шмат дзе традыцыя перапынена... У мяне апошнім часам нават з'явілася гэткая ідэя-фікс: каб у кожным раёне, гарадку быў работнік культуры /музейшчык, краязнаўца/ — рэканструктар аўтэнтычнай традыцыі; гэта значыць, каб па-навуковаму ўзнаўляліся **сапраўдныя** рамёствы, **сапраўдныя** касцюмы, **сапраўдныя** песні... каб не было гэтак званага фальклорна-этнаграфічнага кічу, які пануе цяпер паўсюдна. Мусіць, у гэтым кірунку ёсць над чым падумаць нашаму Інстытуту культуры /цяпер ужо універсітэту — **Ю. З.**/...

Вёска яшчэ можа рэалізаваць навуковыя выкладкі. Акрамя іх, патрэбны сыравіна і матэрыялы. Калі касцюм пачне выраблячца ў фальклорных калектывах, гэта будзе нямала...

— Ці ёсць патрэбныя кадры ў Акадэміі мастацтваў?

— Калі я набіраў першыя наборы студэнтаў, ездзіў з імі ў экспедыцыі, то быў аптымістам. Але энергіі аднаго чалавека тут не стае... Я працаваў з новымі курсамі, а старэйшыя тым часам адыходзілі ад этнаграфіі, сыходзілі ў іншыя сферы, дзе можна было адразу атрымаць асалоду. Тым выпускнікам я пасля задаваў пытанне: а што ты ўмееш **рабіць**? Яны ж не ўмеюць ані шыць, ані ткаць, ані маляваць...

— А хіба можна гэтаму навучыцца без адпаведных умоў?

— Умовы ёсць. Патрэбна жаданне.

* * *

Патрэбна жаданне... Ды кола беларускага жыцця коціцца-пакочваецца не пытаючыся пра нашыя жаданні ці нежаданні прымаць прышласць. Жаданні тут выцясняюцца пачуццямі і разгубленасцю перад векам новым. Нам нясцерпна-цяжка вытрымаць спакойнасць, знаходзячыся ў **такім** стане; застаючыся на ўсё тым жа месцы, мы не можам далей рахмана паказваць дарогу іншым то на Захад, то на Усход. Мы і самі зараз — крычачае пытанне, і, бадай, толькі прарокі, паэты і метафізікі здольны зараз дарадзіць нам нешта супакойнае...

* * *

Прарок казаў: «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» — і прадказаў лёс беларускага БЫЦЦЯ ў XX стагоддзі.

Паэт сказаў: «Калі адчай вякоў гайнёй ваўкоў завые, не трэба анікому ён, сум ля сляпых слупкоў...» — прадчуўшы пакуты беларускага ДУХУ пры канцы стагоддзя.

*Лірык і метафізік, адпаведна, сказалі:*
*Я — рыба.*
*Я толькі што выкінута з вады.*
*Кругі гарачыя ліюцца прад вачамі.*
*Травой мне пахне.*
*О, як пахне мне травою!*
*Мне здаецца: я — чалавек*
*І на траве ляжу. Ад сонца змогся.*
*Але я рыба*
*І — я паміраю...*
........................
*Дзівосныя рыбіны —*
*уначы*
*плаваем у бязмежжы,*
*а ўдзень*
*блукаем па сушы,*
*шукаючы ў ёй*
*рэшткі страчанага бязмежжа...*

— і выказалі двуруч драму беларускае ДУШЫ.

Метафізік пайшоў далей — ён больш рэчаісны, і ён не мог не прызнаць паўнамоцтва таго, што ё с ц ь:

*Той свет і гэты з'ядноўваюцца ўва мне...*

*З дня ў дзень, з году ў год, з веку ў век збіраюся з тайнаю моцай, каб калі-небудзь абвернуць сваё існаванне, адолець дваістасць і стаць насампраўдзе сабой...*

*Я ведаю: гэтак, як ёсць, не павінна быць.*

*Але гэтак ё с ц ь.*

Гэтае прызнанне, далей, абяртаецца — і праз тое здымаецца — знаходжаннем метафізічна-арганічнага ШЛЯХУ з пакуты і дваістасці:

*Становімся тым, кім яшчэ не былі...*

* * *

А не былі мы ў Горадзе, тым самым, нязнана-страхавітым... Ды, дзякуючы ўпару паспеламу слову метафізіка, знаходзяцца і словы прыручэння і прымірэння і гэтай чарговай судзьбіны-нязнанасці:

*Горад горды і высакародны: ён стаіць на высокім месцы — на ўзгорку, на грудзе...*

*Ён — бесперапыннае пераўтварэнне дольняга ў «горнае», мінулага ў «грядучае», ён — іхнія народзіны, і таму ўсе позіркі скіроўваюцца да яго, і таму ўсе дарогі сыходзяцца ў ім, і таму ўсім крывічам і радзімічам ён нібы ўзнагарода, родны і дарагі...*

*Да горада горнуцца вёскі, лясы, пасады, палі, агароды, і ён з'ядноўвае іх у радзіму, а разнаісную грамаду — ... гуртуе ў народ.*

*І нават калі горад знішчаецца дашчэнту, згарае да гарадзішча, народ і радзіма становяцца тым вадовішчам, з якога ён адраджаецца зноўку.*

*У горадзе валодарыць Рагвалод, горад радуецца Рагнедзе...*

* * *

*У Горад уступае Пан*
*Сахі і Касы*

*— дадамо мы.*

●

Дык што ён шукаў — Міхась Раманюк?

Што збіралі-шукалі З. Пазняк, А. Марачкін, браты Чарняўскія, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Скарына?

Што збіраюць сёння і чым у тым збіранні кіруюцца сучасныя нашаніўцы, грамадоўцы, фронтаўцы... сотні беларускіх юнакоў і дзяўчат?

— «Прыдбаць зямлю, набыць свой кут?»

Для мяне, прынамсі, адказ на гэтае пытанне сёння ляжыць **за** межамі вымоўнасці. А чыста рамантычна **думку** я сфармулаяваў бы так:

БЕЛАРУШЧЫНА.

БЕЛАРУШЧЫНА — як прыгожае паданне, жаданы міф.

БЕЛАРУШЧЫНА — як ідэалістычны цэнтр прыцягнення душы, што вызначае і парадкуе свет рэчаў вакол нас: жытло, апратку, песні, сны...

БЕЛАРУШЧЫНА — як усебеларускі метафізічны Грааль, у які збіраюцца-сыходзяцца токі нацыянальнага духу, і які дзеля таго варты такой жа светлай міфалагізацыі, як і той сапраўдны, міфічны Грааль...

# З БОГАМ І ПРА БОГА — ПА-БЕЛАРУСКУ

## АГЛЯД БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ РЭЛІГІЙНАЙ ПЕРЫЁДЫКІ

Сёлета выйшлі з друку два нумары адроджанай «Хрысціянскай думкі». Першы нумар часопіса адкрываецца прамовамі арцыбіскупа Менскага і Магілёўскага Казіміра Свёнтака з нагоды ягонай інаўгурацыі і дня налажэння палевуша — адзнакі метрапалітальнай годнасці.

Рубрыка «Святыня» апавядае пра святую заступніцу беларускага народа Жыровіцкую Божую Маці. Артыкулам «Божыя планы адносна чалавека» адкрываецца серыя тэалагічных прац айца Янкі Тарасэвіча.

Духоўная паэзія прадстаўлена псалмамі /«Песні ўзыходжання»/ Янкі Золака. Чытачоў, неабыякавых да гісторыі мастацтва, зацікавіць пераклад на беларускую мову нататкаў Уладзіслава Сыракомлі «Каталіцкія святыні Менска». Зацікавіць тым болей, што гэтыя святыні альбо не дайшлі да нас, альбо дайшлі перабудаванымі. Асобны артыкул прысвечаны касцёлу Святой Тройцы — духоўнаму асяродку, з якога ў сталіцы Беларусі пачалося станаўленне беларускамоўнага каталіцтва.

Алесь Бяляцкі бярэ інтэрв'ю ў ксяндза Міхала Сапеля, парафіяніна Алеся Хвалея і старшыні Беларускай каталіцкай грамады Фелікса Янушкевіча.

Язэп Янушкевіч распавядае аб тым, які выгляд меў у мінулым стагоддзі Кальварыйскі касцёл. Таксама гісторыі прысвечаны артыкулы Валерыя Касмычова «Каталіцкая дабрачыннасць у Менску» і Ганны Ніціеўскай — аб каталіцтве ў акупаваным і пасляваенным Менску.

Рубрыка «Абсягі культуры» знаёміць з доследам Алеся Жлуткі «Камяніцы і людзі: Менскі езуіцкі калегіум» і з лістамі Аркадзя Смоліча да Зоські Верас.

Змешчаны вершы Янкі Юхнаўца, Святланы Багданкевіч, Дануты Бічэль-Загнетавай.

Працягваецца публікацыя матэрыялаў да 100-годдзя з дня нараджэння айца Адама Станкевіча.

Вядомы навуковец Анатоль Грыцкевіч у гэтым нумары друкуе дослед «Уніяцкая тэндэнцыя і уніяцкая царква на Беларусі ў XV—XVIII стст.»

Эсэ Яўгена Шунейкі «Шлях да згоды» — гэта аповяд пра храмавую архітэктуру ранняга барока на Беларусі, пра тое, як, адмовіўшыся ад гвалтоўных сродкаў і вырашэння міжканфесійных праблем, Ватыкан зрабіў стаўку на культуру і мастацтва. Тыя храмы стаяць і дагэтуль, славячы Бога, дойлідаў і фундатараў.

У нумары — заканчэнне «Апавядання аб жыцці Айца Піо» Кароля Вагнэра і рэцэнзіі на духоўную літаратуру.

Другі нумар «Хрысціянскай думкі» адкрывае рубрыка «Святыня» — тут расказваецца пра цудатворны абраз Маці Божай Бялыніцкай.

Магілёву і Магілёўшчыне, крайняй мяжы каталіцкай Еўропы, прысвечаны шэраг публікацый нумара. У прыватнасці, карэспандэнцыя Ігара Пушкіна «Вяртанне святыні», «З гісторыі каталіцтва ў Магілёве» Зміцера Яцкевіча, інтэрв'ю Алеся Бяляцкага з ксяндзом Уладзіславам Блінам, настаяцелем магілёўскага Станіславаўскага касцёла.

Яўген Анішчанка аналізуе канфесійную статыстыку на паўночным усходзе Беларусі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Прадстаўлены ў нумары аўтэнтычны фальклор — тэкст батлеечнага спектакля «Цар Ірад». Даследчык літаратуры Язэп Янушкевіч у эсэ «На свой хлеб» распавядае аб ролі, якую адыграў у жыцці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча магілёўскі архіепіскап Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч.

Працягваецца публікацыя тэалагічных прац айца Янкі Тарасэвіча. Карусь Каганец паўстае як аўтар духоўных вершаў. Сучасная літаратура прадстаўлена вершамі Юрася Пацюпы і аповядам Адама Глобуса.

Паэт і публіцыст Язэп Германовіч /1890—1978/ — аўтар кнігі «Кітай — Сібір — Масква», адзін з раздзелаў якой прысвечаны вядомаму каталіцкаму дзеячу архімандрыту Андрэю Цікоцю. Гэты раздзел друкуецца ў «Хрысціянскай думцы».

Аб велізарнай ролі езуітаў у арганізацыі і станаўленні вышэйшай школы на Беларусі піша ў артыкуле «Наступнікі айца Ігнація» Алесь Жлутка. У першым сёлетнім нумары «Хрысціянскай думкі» распачаты і ў другім маюць працяг «Расказы з гісторыі Беларусі для школы і народа» айца Адама Станкевіча.

Пра малітву за сталом як сродак хрысціянскага выхавання расказвае Яўген Шунейка.

У 1991 годзе мастацтвазнаўца, сябра Сойма БНФ Валеры Буйвал наведаў Італію — ён суправаджаў групу дзяцей з Чарнобыльскай зоны. Уражанні ад той вандроўкі ляглі ў аснову нататкаў «Шматаблічная Італія».

«Набліжаецца 2000 год», апошні год дваццатага стагоддзя і другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыста. Для аўтара публікацыі Валерыя Касмычова гэта стала падставай прыгадаць гісторыю святкавання юбілеяў Каталіцкай царквою.

Коштам Беларускай каталіцкай грамады Беларускім кааперацыйна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне» накладам у тысячу асобнікаў надрукаваны беларускі малітоўнік «Бог з намі». Гэта дакладна ўзноўлены /факсіміле/ малітоўнік, што выйшаў у свет у віленскай друкарні «Зніч» у 1915 годзе. Склаў малітоўнік Б.Пачобка, які ў 1913—1915 гг. быў рэдактарам каталіцкай газеты «Беларус», а пазней грэка-каталіцкім святаром. Цэнзарам малітоўніка быў ксёндз Фабіян Абрамовіч /1884—1940/, гарачы прыхільнік беларускага рэлігійнага адраджэння.

Асветніцкая актыўнасць беларускіх каталікоў падштурхнула і іхніх праваслаўных братоў да выдавецкай справы. Сёлета выйшаў з друку першы нумар часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце». Галоўны рэдактар — протаіерэй Георгій Латушка, а выдаўцы — Беларускае Праваслаўнае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, Кірыла-Мяфодзіеўскае Праваслаўнае Брацтва /Польшча/ і Прадстаўнікі Беларускіх Праваслаўных Цэркваў замежжа. У складзе рэдакцыйнай калегіі — грамадзяне Беларусі, Польшчы, ЗША, Канады.

Часопіс адкрываецца партрэтам мітрапаліта Філарэта і ягонымі словамі: «Божее благословение сему церковному слову». Мог бы, вядома, уладыка і па-беларуску напісаць, ды — Бог яму суддзя.

Вялікая падборка матэрыялаў прысвечана тысячагоддзю Праваслаўнай царквы на Беларусі. У раздзеле «Царкоўная гісторыя» змешчаны матэрыялы аб стасунках Літвы /Беларусі/ і Візантыі ў XVI ст., аб уплыве праваслаўнай традыцыі Беларусі на царкоўнае і культурнае жыццё Маскоўскага княства ў XVI—XVIII стст., аб генезісе царкоўных брацтваў на Беларускіх землях у XVI—XVII стст.

Рубрыка «Духоўная спадчына» знаёміць з малавядомымі словамі святога Кірылы Тураўскага.

Цікавасць для даследчыкаў маюць архіўныя матэрыялы нумара.

Ёсць у часопісе духоўная паэзія /Ларыса Геніюш, Зніч/. У раздзеле «Пераклады» мяркуецца друкаваць кананічныя праваслаўныя тэксты ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

Хроніка ідзе пад рубрыкаю «Прыходскае жыццё».

Часопіс уяўляе цікавасць не толькі для праваслаўных і не толькі для хрысціян, але для ўсіх, каго хвалююць праблемы адраджэння Бацькаўшчыны.

**В.БОГУШ**

Аб'ява

**Беларускі інстытут праблем культуры**

**аб'яўляе конкурс**

на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу /для тых, хто мае мінскую праліску/

- загадчыка кафедры ўдасканалення прафесійнага майстэрства /доктар навук, прафесар/;

- загадчыка кафедры кіравання ў галіне культуры /кандыдат навук, дацэнт/.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220086, г.Мінск, вул. Каліноўскага, 12, тэл. 64-50-96.

Павел КАВАЛЁЎ

# ДВА АПАВЯДАННІ

## КАНЕЦ КРЫЎДЫ

Амаль кожны вечар у сям'і Лемяшонкаў адбывалася размова даволі, як кажуць, громкая. І ўсё пра дачку, пра Галю, якая насуперак жаданню маці выйшла замуж не за Кастуся Вілчыка, а за Рыгора Левіна. Кацярына, Галіна маці, вельмі ўзлавалася, нават крыўду моцную выказала, пагразіла не знаць, не ведаць ні дачкі, ні зяця. Міканор, Галін бацька, не бачыў нічога благога ў рашэнні дачкі, ён сказаў: «Ёй жыць, а з кім — няхай рашае сама». І гэта не ўпадабалася Кацярыне. Яна злосць захавала на абодвух — і на дачку і на мужа.

Вось і сёння, як толькі Міканор прыйшоў дамоў з работы і сеў папіць чаю, Кацярына распачала гаворку:

— Што, з'ездзіў да свайго зяцька?

— Што значыць да свайго? — адказаў Міканор. — Што ён — не твой зяць, не муж тваёй дачкі?

— Не, — порстка выгукнула Кацярына. — Што, свайго чалавека Галіне не знайшлося б?

— Вунь ты на што намякаеш, — прабурчэў Міканор.

— Намякаю!

— А гэта ўжо дарэмна... Што, Рыгор Левін горшы за Віктара Вільчыка?

— Горшы, — выпаліла Кацярына.

— А чым горшы? — сур'ёзна спытаў Міканор. — Чым? Не чалавек?

Кацярына маўчала. Яна не хацела адкрываць сваю патаемнасць.

— Вось я з'ездзіў да іх, адведаў. І вельмі задаволены.

— Зяця пабачыў? — ні з таго з сяго праказала Кацярына.

— Не толькі зяця, а і дачку, і сынка іхняга Міхаську. Здаецца, у іх усё нармальна, па-чалавечы. Рыгор інжынерам на заводзе, у дэпутаты райсавета абраны. Значыць, паважаюць чалавека. Галя пры дапамозе Рыгора ў педінстытут паступіла, настаўніцай будзе. А Міхаська пра школу марыць. Вясёлы хлопчык...

Кацярына маўчала. Міканор сваё:

— Пара і табе з'ездзіць да іх. Міхаська пытаўся: «А бабулька калі прыедзе?»

— Хлусіш, выдумляеш... —нярэзка вымавіла Кацярына і адвярнулася.

Нейкі час абодва Лемяшонкі маўчалі. Кожны думаў пра сваё.

Але ў Кацярыны нешта ўзварухнулася, нешта яе ўзварушыла, хоць і не паверыла яна ў сказанае Міканорам.

Міканор жа быў нязменны. Ён сваё стаўленне да дачкі лічыў правільным, таму і жонцы хацеў гэта ўнушыць. Праўда, ён не хацеў Кацярыне выказваць усё да канца, няхай, маўляў, сама дойдзе да разумення, што паміж рускім Віктарам і яўрэем Рыгорам розніцы няма, а меркаванне Кацярыны — гэта старыя прыдумкі ці забабоны.

Кацярына пасля гаворкі з мужам усё ж рашыла, што з'ездзіць да дачкі трэба. Гэта ж мацярынскі абавязак. Столькі гадоў не бачыцца!

Закончыўся вячэрні час Лемяшонкавых больш ціха, спакойна.

Міканор адчуў, што, як кажуць, лёд крануўся, жонка задумалася.

Яшчэ праз які тыдзень Кацярына пачала паціху збірацца ў адведкі...

Кацярына зайшла ў зяцеву хату і пачала выбіраць з кошыка гасцінцы. За ўсім, што яна рабіла, пільна наглядаў унук Міхаська. Прама на стол Кацярына выкладвала з кошыка кольцы сялянскай каўбасы, брусок сала і з дзесятак ці болей свежых яек. Міхаська падышоў да акна, адчыніў яго і ва ўвесь голас паклікаў маці:

— Мам... хадзі, хадзі сюды, бабулька прыехала!

Гэтае дзіцячае «бабулька» і радаснае «прыехала» Кацярыну нібы ўскалыхнула. Сказана было нечакана і неяк урачыста. Усплыло, як з туману, хоць і нядаўняе, але ж ужо мінулае. Гэта ж яна, Кацярына Лемяшонак, ушчувала сваю дачку Галю, што яна сябруе з Рыгорам Левіным, яўрэйскім хлопцам. У ёй, хоць і не вельмі старой жанчыне, жыло яшчэ павер'е ці звычай, што сябруюць, а калі час то і жэняцца толькі беларусы з беларусамі, а яўрэі з яўрэямі. Таму яна, Кацярына, чакала, што яе Галя...

Але Галя на матчыны забабоны ўвагі не брала. Сябравала ў сваім мястэчку Смаляны і з беларускімі і з яўрэйскімі хлопцамі. Дайшло, аднак, да таго, што Рыгор Левін пачаў і ў хату заходзіць, размовы з Галіным бацькам Міканорам весці. Бывала нават вады прынясе, дроў ахапак у грубку. Міканор на ўсё гэта глядзеў, як на звычайнае, а яна, Кацярына, абуралася:

— Гэта што робіцца!

— Ну а што? — пытаўся Міканор.

— Схіляеш хлопца да нас...

— Хай схіляецца, калі хоча, — Міканор казаў сваё.

Так яно з часам і адбылося. Рыгор папрасіў Галінай рукі, а Галя — дазволу выйсці замуж за Рыгора.

Кацярына бунтавала, гразілася, чым толькі магла. Міканор толькі пасмейваўся. А апошнім часам, калі Галя выйшла замуж за Рыгора і паехала ў горад жыць да Рыгоравых бацькоў, колькі разоў і наведаў іх, маладых і старых. Кацярына абуралася, злавалася, з Міканорам спрачалася.

Хоць той спакойна і даволі пераканана даказваў, што і ёй, Кацярыне, трэба паехаць і адведаць, як жывуць дачка і зяць, а цяпер ужо і ўнук. І вось з цягам гадоў Кацярына выехала са сваіх Смалян у горад да сваіх. Сустрэча з унукам усё ў ёй перавярнула, усе перагародкі разбурыла, на ўсё старое крыж паставіла.

Зяць Рыгор вярнуўся дахаты тады, калі Кацярына ўжо зынакшылася. З ходу падаўся да цешчы і падаў руку. Падала і яна сваю. Рыгор, відаць, машынальна пацалаваў руку Кацярыне. О, гэта быў пераварот у свеце. Кацярына ўжо не ведала, што з ёю адбываецца.

Канец крыўдзе надышоў.

## ЛЁВАЧКА

На адной з цэнтральных вуліц мястэчка Смаляны жылі па суседстве будаўнік Антон Ладуцька і сувязіст Сямён Рабіновіч. Жылі зладна, паважалі адзін аднаго, дапамагалі адзін аднаму. Добрае суседства мацавалі жонкі — Матрона Ладуцькава і Сара Рабіновічава. Бывала, зварыцца ў Сары заліўная рыбка, астудзіць і заве Ладуцькаў адведаць, сказаць, ці хапае солі, перчыку. А мужчыны тым часам, хітра пераглянуўшыся, і па грамульцы гарэліцы глытнуць. Жанчыны маўчаць, не ўшчуваюць. Яно ж дзе закусь добрая, так і грамы патрэбны.

У Матроны ўдаюцца пірагі з яблыкамі. Тады на чай Ладуцькі клічуць Рабіновічаў. Асабліва любіў пірагі Лёвачка. Ён і з чаем з'есць не адзін кавалак, і з сабою дамоў возьме, колькі Матрона загорне яму ў паперыну.

Так і жылі б суседзі, каб... не грымнула вайна. На другі ці трэці дзень позвы ваенкамата паклікалі Антона Ладуцьку ў пяхоту, а Сямёна Рабіновіча ў артылерыю.

У мястэчку засталіся жонкі і Рабіновічаў сын Лёвачка. Ён не адыходзіў ад маці і часта наведваў суседку Матрону Ладуцьку. А тая дарыла яму сваю ласку і не шкадавала хлопчыку пачастункаў.

Ішлі месяцы вайны. Прыцішана жылі жыхары Смалян, адчуваўся ва ўсім недахоп, потым і галадуха наступіла. Матрона Ладуцька сходзіць у суседнюю вёску да знаёмых, бульбы прынясе, з Сарай падзеліцца. Сара выменяе на базары што з рэчаў на прадукты, нясе палавіну Матроне. Вайна паказвала сваё. Адным днём у Смалянах пачалося неверагоднае. Фашысты выганялі яўрэяў з іхніх дамоў, лавілі на вуліцах, зганялі ў натоўп, а потым пад аўтаматамі пагналі за чыгуначную станцыю і ў кар'еры ўсіх расстралялі. Загінула і Сара Рабіновіч.

Лёвачку Матрона сказала, што маці некуды паехала і прасіла яе, Матрону, прыгледзець за ім да таго часу, пакуль яна вернецца.

Лёвачка паверыў і ва ўсім слухаўся.

Так было выратавана жыццё Лёвачкі. А вайна брала сваё. Неўзабаве Матрона Ладуцька атрымала пахаванку. Плакала над ёю. Загінуў смерцю храбрых Антон Ладуцька. Лёвачка таксама чытаў і перачытваў тую паперу. Сцішыўся, пазмрачнеў, ад цёткі Матроны не адыходзіў.

Праз нейкі час прыйшло пісьмо-трохкутнік ад Сямёна Рабіновіча. Ад радасці плакаў Лёвачка, а потым сабраўся з сіламі і напісаў бацьку першае пісьмо. Напісаў пра тое, што маці некуды паехала і ён чакае яе ў цёткі Матроны. Паведаміў і пра тое, што цётка Матрона ўзяла ключы ад іхняй кватэры. Відаць, усё гэта было вельмі важным для Сямёна Рабіновіча. Больш ён пісем не прысылаў на адрас сваёй кватэры, а праз некалькі месяцаў паведаміў Матроне Ладуцька, што паранены і знаходзіцца ў шпіталі.

Ішло жыццё наперад. Дзень за днём, месяц за месяцам, а там і гады ліхалецця міналі. Лёвачка быў з Матронай Ладуцька неадлучна. Дачакаліся перамогі, уступілі ў мірнае жыццё, пачала працаваць школа.

Матрона запісала Лёвачку на сваё прозвішча. А тут і вестка прыйшла ад Сямёна Рабіновіча. Змог ён перанесці некалькі аперацый на нагах, адляжаўся то ў адным, то ў другім шпіталі і вось хутка, мабыць, выпішуць, і ён прыедзе ў свае Смаляны. Радаваўся Лёвачка, зусім аціх, не трывожыў цётку Матрону пытаннямі. Відаць, і дзіцячае сэрца ўсё чуе.

Летнім днём, ужо сорак пятага, калі Матрона і Лёвачка пілі чай, у хату пастукалі. О божа, на ганку быў паштальён з тэлеграмай. Матрона распісалася за яе і хуценька прачытала тэкст. Тэлеграму аддала Лёвачку. Той да яе як прыліп, апамятаўшыся, загаварыў да цёткі Матроны:

— Цётачка, пойдзем да нас, ну ў нашу кватэру, га?

Матрона не адразу знайшлася што Лёвачку адказаць. Яна не хацела хлопчыка крыўдзіць ды і не ведала, што і як далей, пасля тэлеграмы, рабіць. У тэлеграме ж было сказана: «Еду да вас». Жанчына ўсё ж Лёвачку сказала:

— Давай, хлопча, прычакаем, а там відаць будзе, што рабіць.

Лёвачка супакоіўся.

Сямён Рабіновіч прыехаў у Смаляны на досвітку, раніца толькі-толькі бралася ў сілу. Аднак пайшоў дамоў. Памкнуўся ў сваю кватэру — замок на дзвярах. Памацаў яго, нібы паздароўкаўся, і ўспомніў пісьмо сына, што ключ ад кватэры ў Матроны. Павярнуўся і пайшоў да суседскіх дзвярэй, памацаў, зачынены. Пагрукаў. Адчыніла дзверы Матрона, кінулася на шыю, прытулілася. З'явіўся і Лёвачка. Абхапіў абодвух за шыі, цалаваць пачаў і цётку, і бацьку. Усе разам увайшлі ў хату.

— Зараз, мужчынкі, будзем снедаць.

Сямён кінуўся да рэчавага мяшка, пачаў яго патрашыць, аддаваць Лёвачку:

— Стаў, кладзі, сынок, на стол, будзем снедаць.

Лёвачка ўвіхаўся, спрытна ладкаваў усе харчы на стале. А тут і Матрона прынесла шклянкі з кіпенем, сказала:

— Цукру, Сямён, няма, прабач...

— А ў мяне ёсць, — вымавіў Сямён і зноў крануў свой рэчавы мяшок.

Снедалі ўтраіх. Так і засталіся разам у Ладуцькавай кватэры. Сямён Рабіновіч нікуды не пайшоў ад суседкі і сына.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Тыя, што ніжэй, не адказваюць за тых, што вышэй, тыя, што вышэй, — за тое, як гэта робіцца на нізе. Сённяшнія не адказваюць за ўчарашніх, заўтрашнія — за сённяшніх, тыя, што ў цэнтры, — за тых, што па баках, тыя, што па баках, — за тых, што пасярэдзіне. Ініцыятары прыкрываюцца пастановамі агульных сходаў, рашэнні, прынятыя большасцю галасоў, лічацца абавязковымі. Некаторыя ўсё бачаць, а зрабіць нічога не могуць, іншыя ад скрухі плюшчаць вочы. Ёсць абыякавыя, нават такія, што зларадн1чаюць, час ад часу мяняюцца выканаўцы... Усё яшчэ спадзяешся знайсці вінаватых?

•

...Зязюля кувае сваю песню, і шмат каго зачароўвае гэта няхітрае куку.

А я ўспамінаю карціну ў краязнаўчым музеі, на якой большае птушаня выштурхоўвае з чужога гнязда меншае. Бацькі не заўважаюць страту дзіцяці і дбайна гадуюць ненажэрнага зязюльчынага падкідыша.

Не ўсё скажа параўнанне, але ці не нагадвае драма ў лясным гняздоўі драму нашай мовы?

Не магу з замілаваннем слухаць зманлівае зязюльчына кукаванне.

•

Не праз заставы маскоўскія ў свет ад сваёй краіны новыя едуць Гусоўскія, новыя едуць Скарыны. Вернуцца юныя геніі, клічам абудзяць раніцу, зайздроснаму пакаленням, каму іх набыткі дастануцца!

•

Пытаюся ў дзяўчыны пра нейкую там муру, а яна мне: «Адстаньце, мужчына, рускім языком гавару». Ую сваю кудзелю: «Калі ў пасёлку танцы?» А яна мне зноў на трасянцы: «Тусуемся ў нядзелю». Толькі ўжо ў клубе высветлілі, што сэрцу люба, і на гэтай аснове знайшлі агульную мову.

•

Думаеце, лёгка было выбіваць сабе музей, хоць мемарыяльныя кватэры дасюль у модзе? Паліла інфантэрыя ў тысячу фузей... Ёсць музей! А ніхто не ходзіць.

•

Няма таго, няма гэтага, няма як, нама дзе, няма ў што, уваходу няма, выхаду няма, піва няма, здачы няма, дурных няма, смерці няма — хіба гэта жыццё?

•

Наш каляндар: сёння ў бібліёграфаў чорны дзень — ніхто з славутасцей не памёр і не нарадзіўся.

•

У галаве ў мяне камп'ютэр: беларускія грошы пераводжу ў рускія — памнажаю на дзесяць, старыя цэны параўноўваю з новымі — павелічэнне ў тысячу разоў, цэны ў СКВ пералічваю ў цэны рублёвай зоны — за тры тысячы долар, уношу папраўку на рост інфляцыі — амаль сорак працэнтаў штоквартальна. Падсумоўваю ўсё, і бачу, што зарплаты маёй, зарплаты жонкі, пенсіі цешчы не хопіць не тое што на квартал — на месяц. Добра, калі ў галаве ёсць камп'ютэр!

ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-24-62, мастацкага афармлення — 33-22-64 фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 16.12.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12